

*"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)*

# Царква

№ 2 (17), 1998 СВЯТА ПЯТРА І ПАЎЛА

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63205**

**Падпіска на "Царкву" з II паўгоддзя ва ўсіх аддзяленнях сувязі**

**Святы Айцец Ян Павел II чытае газету "Царква". А вы?**

# Паломніцтва беларускіх грэка-каталікаў у Святую Сталіцу



Сабор і плошча св. Пятра ў Рыме.

Невялікая група беларускіх грэка-каталікаў — супрацоўнікаў газеты «Царква» — Ігар Бараноўскі і Андрэй Крот на чале з яе галоўным рэдактарам і душпастырам для грэка-каталікаў Берасцейскай вобласці айцом Ігарам Кандрацьевым вярнуліся пасля паломніцтва ў Рым. У часе 16-дзённага паломніцтва іх суправаджаў Апостальскі візітатар для грэка-каталікаў у Беларусі архімандрыт а. Сяргей Гаек. Дзякуючы ягоным намаганням і адбылося гэтае паломніцтва.



Падчас Імшы ў прыватнай капліцы Папы Яна Паўла ІІ. Ватыкан, 5.05.1998.



Апостальскі візітатар а. Сяргей Гаек вітае Святога Айца. Ватыкан, 5.05.1998.

Маршрут падчас паломніцтва ў Сталіцу Апосталаў быў наступны: Берасце — Люблін — Брно — Велеград — Прага — Рым. Гасцінны прытулак падчас побыту ў Рыме беларускія паломнікі знайшлі ў славутым калегіуме «Русікум» (тут жывуць і атрымліваюць падрыхтоўку святары і клерыкі з краінаў былога СССР і Усходняй Еўропы), а таксама ў Генеральным доме ордэну марыянаў.

Беларускія грэка-каталікі мелі шчаслівую магчымасць памаліцца ў чатырох галоўных хрысціянскіх святынях Вечнага горада: у базіліцы св. Пятра (тут, дарэчы, спачываюць мошчы святога мучаніка Полацкага архібіскупа Язафата Кунцэвіча), у базіліцы св. Паўла, у базіліцы св. Яна на Латэране, у базіліцы Санта Марыя Маджорэ, а таксама і ў іншых славутых святынях.

Наўрад ці забудзецца хвалюючы момант, які давялося перажыць беларусам у Рыме ў храме Жыровіцкай іконы Маці Божай і св. мучанікаў Сяргея і Вакха падчас св. Літургіі, якая ў дзень ушанавання гэтага слыннага ласкамі абраза (7 траўня) адпраўлялася па-беларуску. Гэтую царкву, вядомую ў Рыме яшчэ як *Madonna del Pascolo*, разам з прылеглым будынкам падараваў «Рускай нацыі» ў сярэдзіне XVII стагоддзя папа Урбан VIII. На жаль, сёння беларуская мова гучыць у гэтай святыні вельмі рэдка — беларусы не здолелі закласці ў Рыме свой асяродак, а вось украінцы маюць тут даволі моцныя і трывалыя пазіцыі. Акрамя згаданага храму, украінскія грэка-каталікі маюць у Рыме грамадска-культурны асяродак пры вельмі прыгожай царкве Святой Сафіі, з цудоўнай мазаікай унутры. У гэтым цэнтры хрысціянскага жыцця беларускіх паломнікаў прывітаў біскуп Іван Хома, які падараваў на памяць некалькі сваіх твораў па гісторыі Грэка-Каталіцкай Царквы. Сёння ў Рыме дзейнічае Украінскі Папскі калегіюм св. Язафата, дзе атрымліваюць багаслоўскую падрыхтоўку будучыя грэка-каталіцкія святары (дарэчы, сюды гатовы прымаць на вучобу і беларусаў). Генеральная Управа чыну св. Васіля Вялікага цяпер таксама месціцца ў Рыме. Протаархімандрыт базыльянаў а. Дзіянісій Ляховіч не выключае, што ягоныя далёкія продкі паходзяць з Беларусі. Ён выказаў вялікую цікавасць да адраджэння Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Не менш запомнілася паломнікам з Беларусі наведванне базілікі св. Клімента, дзе ў скляпеннях ста-



Беларускія грэка-каталікі на аўдыенцыі ў Святога Айца Яна Паўла ІІ. Ватыкан, 5.05.1998.

ражытнага храму захоўваюцца святыя мошчы аднаго з настаўнікаў славянаў — біскупа Кірылы. Амаль усе славянскія нацыі пакінулі тут свае знакі ўдзячнасці патронам Еўропы — св. Кірылу і Мятоду. Прыкра, але факт: у адрозненне ад іншых славянаў, мы, беларусы, дагэтуль ніяк не ўшанавалі памяць асветнікаў славянаў. Варта адзначыць, што, паводле ўмовы Святой Сталіцы, зрабіць гэта мусіць уся нацыя, а не асобная канфесія. Беларускія грэка-каталікі гатовыя ўнесці свой уклад у справу ўшанавання памяці св. Кірылы і Мятода, тым больш, што адна з парафіяў (у Баранавічах) выбрала сваімі нябеснымі апекунамі салунскіх братоўасветнікаў. Спадзяёмся, што для



*Беларусы ў Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў на прыёме ў архібіскупа М.Марусына. Рым, 4.05.1998.*

вырашэння гэтай пачэснай задачы аб'яднаюцца ўсе хрысціянскія канфесіі, не застанецца ўбаку беларуская інтэлігенцыя ды ўся грамадскасць краіны.

Праграма дзевяцідзённага знаходжання ў Рыме прадугледжвала знаёмства з жыццём каталікаў розных усходніх традыцыяў. Як ні дзіўна, у Італіі, дзе традыцыйна пераважаюць каталікі лацінскага абраду, здаўна існуюць і каталікі ўсходняй традыцыі. У Рыме ды іншых мясцовасцях ёсць украінскія, грэцкія, рускія, румынскія, мельхіцкія і мараніцкія (для хрысціянаў з Блізкага Усходу) калегіюмы, семінарыі, манастыры і парафіі, а на поўдні ад Рыму — у Калабрыі і Сіцыліі — кампактна існуюць усходнекаталіцкія італа-албанскія парафіі ў епархіі Лунгро, што таксама належаць да візантыйскай традыцыі. Асяродкам усходняй духоўнасці ў Італіі паранейшаму з'яўляецца славуты Крыптаферацкі



*Падчас Імшы ў прыватнай капліцы Святога Айца Яна Паўла II. Ватыкан, 5.05.1998.*

манастыр, заснаваны шмат стагоддзяў таму грэкамі непадалёк ад Рыму. Сваю святыню ў Вечным горадзе маюць і хрысціяне — выхадцы з Эфіопіі. Калі трапляеш на набажэнства ў гэты храм (вонкава ён нічым асабліва не выдзяляецца ад іншых), эфіопскі абрад і інтэр'ер храму адразу пераносіць вас на Блізкі Усход, туды, дзе суседнічае сёння хрысціянства, іслам і юдаізм, дзе карані хрысціянства. Беларускім паломнікам пашчасціла таксама трапіць у Сабор св. Пятра на Літургію ў мараніцкім абрадзе (ім карыстаюцца ліванскія хрысціяне) з нагоды беатыфікацыі (абвяшчэння благаславёным) Німатулаха Кассаба аль-Гардзіні.

Грэка-каталікі з Беларусі мелі выдатную магчымасць пазнаёміцца з літургічнай традыцыяй і ўсёй той разнастайнасцю, якая існуе сярод Усходніх Каталіцкіх Цэркваў, параўнаць хрысціянскія звычаі і традыцыі розных народаў з уласнымі. Прыемна здзіўляла, што амаль паўсюль пра беларускіх грэка-каталікаў іх браты — усходнія каталікі — ведаюць. Неаднойчы святары і біскупы (нават у горнай італа-албанскай епархіі Лунгро!) узгадвалі падчас сустрэчаў беларускіх святароў: а. Аляксандра Надсана, а. Кастуся Маскаліка, біскупа Часлава Сіповіча.

У Рыме беларусы завіталі на Радыё Ватыкан, дзе пабачылі, як працуе адна з буйнейшых радыёстанцыяў свету, пазнаёміліся з супрацоўнікамі беларускай і ўкраінскай секцыяў, а таксама далі інтэрв'ю пра сучаснае жыццё грэка-каталікаў у Беларусі.

У Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў, якой сёння наўпрост падпарадкавана Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква, паломнікаў з Беларусі цёпла прыняў сакратар Кангрэгацыі архібіскуп Міраслаў Марусын. Ён уважліва выслухаў праблемы, з якімі сутыкаюцца сёння грэка-каталікі ў Беларусі і абяцаў па магчымасці спрыяць у іх вырашэнні.

Але, безумоўна, найважнейшым момантам у часе пілігрымкі была магчымасць памаліцца разам са Святым Айцом Янам Паўлам II у

*Працяг на стар. 10*



*Архімандрыт Сяргей Гаек гаворыць казанне падчас Літургіі ў дзень ушанавання Жыровіцкай іконы Маці Божай. Рым, 7.05.1998.*

## Праблема жанатага грэка-каталіцкага святарства ў Польшчы

Бурную рэакцыю ў грэка-каталіцкім свеце выклікала распараджэнне, якое выдаў дзяржсакратар Ватыкану кардынал Анжэла Садана ў лісце ад 4 сакавіка 1998 году да Нунцыя ў Польшчы архібіскупа Юзафа Кавальчыка. Гэтым лістом-распараджэннем жанатым грэка-каталіцкім святарам, якія вядуць, душпастырскую дзейнасць у Польшчы, прадпісана выехаць на Украіну. Належыць адзначыць, што сярод жанатага святарства ў Польшчы ўсяго некалькі святароў з'яўляюцца грамадзянамі Украіны, большасць — грамадзяне Польшчы.

У распараджэнні кардынала Садана гаворыцца: «Сучасная сітуацыя вядзе да ўзнікнення новых праблемаў, якія павінны быць вырашаныя ў духу калегіяльнасці паміж ардынарыямі азначанага абраду, Польскай біскупскай канферэнцыяй і Святым Пасадам. Гаворка ідзе пра дзейнасць у Польшчы пэўнай колькасці жанатых святароў, тэарэтычна прывязаных да епархіяў, якія знаходзяцца на тэрыторыі Украінскай Рэспублікі». У сувязі з гэтым дзяржсакратар Ватыкану раіць наступнае:

«1. Біскупы візантыйска-украінскага абраду адназначна не могуць змяняць прэвалюючую практыку, згодна з якой грэка-каталіцкія святары павінны трымацца абавязковага цэлібату ў Польшчы. Любыя змены ў гэтым правіле не могуць мець падставаю толькі традыцыю згаданай Царквы, без ухвалення Польскай біскупскай канферэнцыі і атрымання дазволу ад Святога Пасаду.

2. У сувязі з гэтым, жанатыя святары, якія ў дадзены момант працуюць у Польшчы, павінны вярнуцца ў свае родныя епархіі на Украіне.

3. У выпадку, калі будзе бракаваць святароў, справа можа быць вырашана шляхам прыцягнення да служэння бірытуальных святароў».

Прэфект Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў кардынал Ахілес Сільвестрыні ўстрымаўся пакуль ад каментараў адносна гэтага распараджэння.

Што да прадстаўнікоў УГКЦ на Украіне і Польшчы, то яны адразу выказалі сваё здзіўленне ў сувязі са з'яўленнем падобнага рашэння. На думку біскупа-памочніка Главы УГКЦ Любаміра Гузара, ліст кардынала Садана ёсць дзіўны, паколькі жанатыя святары візантыйска-украінскага абраду сёння бесперашкодна вядуць душпастырскую дзейнасць у ЗША і Канадзе, дзе ён пражыў не адзін год. У гэтых краінах біскупы лацінскага абраду адназначна заявілі, што не пярэчаць супраць прысутнасці ў іх краінах жанатых грэка-каталіцкіх святароў. Прапанову Ватыкану замяніць жанатых святароў УГКЦ бірытуальнымі святарамі Рыма-Каталіцкай Царквы ўладыка Гузар расцаніў як «поўную непавагу да Украінскай Царквы і яе традыцыі» і выказаў сваё поўнае неразуменне, «пра якія ўскладненні можа ісці гаворка».

Пасля атрымання ліста кардынала Садана мітрапаліт УГКЦ у Польшчы Іван Мартыняк надаслаў яго факсам у цэнтр УГКЦ у Львоў і вырашыў не прымаць ніякіх захадаў адносна жанатых святароў, пакуль гэтае пытанне не будзе абмеркавана на Архірэйскім Саборы УГКЦ, які запланаваны на восень гэтага году.

З вострай крытыкай прапановы дзяржсакратара Ватыкану адносна жанатых святароў у Польшчы выступіла газета амерыканскай візантыйска-каталіцкай епархіі Пассаік «Усходне-Каталіцкае жыццё» *(Eastern Catholic life)*, якая адначасна выходзіць у ЗША і Англіі. Архімандрыт Серж Кэлэгер, аўтар артыкула і рэдактар газеты, піша: «Выглядае кур'ёзам тое, што дысцыпліна клерыкальнага цэлібату можа трактавацца як «сталая традыцыя», якая не можа мяняцца, акрамя як пасля кансультацыяў з Канферэнцыяй рыма-каталіцкіх біскупаў Польшчы». На думку газеты, ліст кардынала Садана можа быць расцэнены як спроба падпарадкаваць Грэка-Каталіцкую Царкву ў Польшчы рыма-каталіцкай Канферэнцыі біскупаў Польшчы ў плане ўнутранай дысцыплінарнай прыроды. Калі ж Усходнія Каталіцкія Цэрквы існуюць толькі як Цэрквы на паперы (дэ юрэ), а не фактычна (дэ факта), у гэтым выпадку яны не існуюць як Цэрквы, а толькі як абрады. Аднак дакумент II Ватыканскага Сабору *«Orientalum Ecclesiarium»* і Кодэкс Канонаў Усходніх Цэркваў ясна вызначаюць усходне-каталіцкія супольнасці як Цэрквы, а не абрады. Такою ёсць і УГКЦ — асобнаю і самаўпраўнаю Царквою. Таму пісьмовае распараджэнне адносна яе «можа падацца насмешкаю», — піша газета «Усходне-Каталіцкае жыццё».

Архібіскуп Юзаф Кавальчык у сувязі з моцным хваляваннем сярод грэка-католікаў напісаў украінскім грэка-каталіцкім біскупам у Польшчы пазсненне адносна жанатых святароў усходняга абраду ў гэтай краіне. Сцвярджаецца, што параграф Кодэкса Канонаў Усходніх Цэркваў, які дазваляе служэнне жанатых святароў, мае сілу толькі ў краінах, дзе ўсходні абрад ёсць традыцыйны, але не ў тых краінах, куды грэка-католікі эміграваллі. Але ж межы паміж Польшчаю і Украінаю мяняліся неаднойчы, а на тэрыторыі Усходняй Польшчы заўжды існавала Царква візантыйскага абраду. Дарэчы, жанатыя грэка-каталіцкія святары без перашкодаў служаць у парафіях у такіх традыцыйна рыма-каталіцкіх краінах, як, напрыклад, Венгрыя, Чэхія, і нават у Італіі. Гэта праблема ўзнікла чамусьці толькі ў Польшчы. Калі ж зыходзіць з падобнай логікі, то на тэрыторыях, дзе традыцыйны ёсць не лацінскі, а ўсходні абрад, рыма-каталіцкія святары ў Расеі, Украіне, Балгарыі, Беларусі і г.д. павінны пакінуць гэтыя тэрыторыі, а заменяць іх бірытуалісты жанатыя грэка-католікі, ці іншы варыянт — лацінскія святары не павінны ў гэтых краінах трымацца цэлібату...

## Рэлігійнасць амерыканскай моладзі

Сацыялагічнае апытанне амерыканскай моладзі ад 13 да 17 гадоў, арганізаванае «Нью-Ёрк Таймс», прадэманстравала, што ўзровень рэлігійнасці маладога пакалення амерыканцаў ёсць нашмат вышэйшы, чым чакалася. Фактычна, 94 % рэспандэнтаў пацвердзілі, што вераць у Бога. Большасць апытаных не ўжывае алкаголю і наркотыкаў. Яны паважаюць сваіх бацькоў і хочуць быць у некаторых рэчах нават лепшымі за іх. На пытанне, якія праблемы стаяць сёння перад амерыканскай моладдзю, 39 % назвалі наркотыкі, 7 % — насілле і злачыннасць.

## Лютаранская Царква Швецыі ўводзіць афіцыйны рытуал разводу

Нацыянальная Лютаранская Царква Швецыі ўвяла т. зв. «рытуал разлучэння», праз які сямейныя пары могуць пакласці канец свайму шлюбнаму саюзу. Шведская Царква пайшла на гэта з той прычыны, што колькасць разводаў у гэтай краіне цяпер перавышае колькасць шлюбаў. З паказчыкам 52 % разводаў Швецыя пабіла гэты сумны рэкорд ва ўсёй Еўропе.

Новастворaны рытуал прадугледжвае ўзаемнае даравання былых сужонкаў, якое святар абвяшчае ў імя Ісуса Хрыста. Колішнія партнёры просяць узаемнага ацалення ранаў, дзякуюць адно аднаму за шлях, што прайшлі разам, і просяць прабачэння. Гэтае царкоўнае новаўвядзенне адразу сустрэла мноства крытыкі як у Швецыі, так і за мяжою. Аднак асобныя тэолагі з суседніх краінаў таксама выступаюць за ўвядзенне падобнага рытуалу. Адзін з дацкіх тэолагаў пастар Эрык Брок сцвярджае, што «смерць любові павінна мець таксама сваю труну».

## 50-гадовы юбілей святарства архібіскупа Міраслава Марусына

22 траўня ў Крэхаўскім манастыры айцоў-базыльянаў, дзе ў гэты час традыцыйна адбываюцца вялікія водпусты, адзначалася асаблівая падзея — 50-годдзе святарства архібіскупа УГКЦ, сакратара Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў Міраслава Марусына. Прывітаць юбіляра ў Крэхаў прыехалі грэка-каталіцкія біскупы, прадстаўнікі рыма-каталіцкай Царквы, духавенства і шматлікія вернікі. Падчас падзячнай св. Літургіі быў зачытаны ліст-віншаванне ад Святога Айца Яна Паўла II, у якім Рымскі Архірэй, высока ацэньваючы дзейнасць уладыкі Марусына, у ягонай асобе паблаславіў усіх вернікаў Грэка-Каталіцкай Царквы.

Звяртаючыся да прысутных, архібіскуп Міраслаў падзякаваў уладыкам, айцам і вернікам падпольнай Царквы, дзякуючы якім сталася магчымым гэтае свята. Сакратар Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў адзначыў, што сорак гадоў спатрэбілася яму, каб прыехаць у вольную Украіну, адведаць родныя мясціны на Львоўшчыне. А дагэтуль былі гады працы ў Апостальскай Сталіцы, дапамога патрыярху Ёсыпу Сліпому, навуковая праца, выдавецкая справа, Папскае прызначэнне ў Кангрэгацыю Усходніх Цэркваў.

## Грэка-католікі на хіратоніі біскупа Ежы Мазура ў Новасібірску

31 траўня ў Новасібірску адбылося ўзвядзенне ў сан (хіратонія) рыма-каталіцкага біскупа Ежы Мазура з ордэну вербістаў (місіянераў Божага Слова), які працяглы час працаваў у Баранавічах. У ягонай хіратоніі браў удзел біскуп-памочнік Львоўскай архіепархіі Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Юльян Гбур (ён таксама належыць да ордэну вербістаў).

2 і 3 чэрвеня біскуп Ю.Гбур сустракаўся з мясцовымі грэка-католікамі, якія былі высланыя сюды пасля вайны. З блаславлення пробашча рыма-каталіцкай парафіі ў храме Сустрэчы Госпада Ісуса Хрыста яны маюць магчымасць адпраўляць літургіі ў візантыйскім абрадзе. Уладыка Юльян Гбур адслужыў тут урачыстую архірэйскую Літургію св. Яна Залатавуснага. Падчас св. Літургіі разам з уладыкам саслужылі грэка-каталіцкія і рыма-каталіцкія святары.

## Базыліка св. Пятра на кампакт-дыску

У сярэдзіне траўня пабачыў свет кампакт-дыск, з дапамогаю якога кожны можа азнаёміцца з мастацкімі памяткамі славутай рымскай базілікі св. Пятра. CD-ROM пад назваю «Базіліка св. Пятра ў Рыме: рэлігія, Літургія, гісторыя, мастацтва і архітэктура», акрамя відэа- і аўдыёзапісаў, месціць 700 статычных выяваў і копіяў арыгінальных архітэктурных планаў храму. Дыск выпусціла рымская кампанія «Голд Інтэрэктыў» у супрацоўніцтве з «Фабрык дзі Сан П'етра» — ватыканскай структурай, якая адказвае за базіліку св. Пятра.

Цяпер кожны карыстальнік дыску зможа ў дэталях азнаёміцца нават з тымі аб'ектамі ў базіліцы, якія звычайна недаступныя турыстам. Погляду віртуальнага наведвальніка адкрыюцца не толькі шматлікія мазаікі, статуі, грабніцы і іх інтэр'ер, а нават тыя экспанаты, якіх ужо няма, як, напрыклад, базіліка з IV стагоддзя, якая стаяла збоку ад галоўнага храму. Дыск падае кароткія біяграфіі ўсіх папаў пасля св. Пятра. Адзін з раздзелаў тлумачыць 10 богаслужбовых і абрадавых дзеянняў, якія звычайна адбываюцца ў базіліцы (напрыклад, адкрыццё дзвярэй Святога Году ці кананізацыйная Літургія). Асобны раздзел падае гісторыю архітэктуры базілікі. Дыск мае алфавітны спіс і кароткі жыццяпіс 108 мастакоў, талентамі якіх узводзілася гэтая велічная пабудова, а таксама слоўнікі літургічных і архітэктурных тэрмінаў.

Цяпер разглядаецца магчымасць распаўсюджвання дыску за межамі Італіі. Італійская версія дыску будзе каштаваць 80 $, а максімальны кошт яго ў ЗША не перавысіць 59 $. На стварэнне гэтага дыску пайшло 2 гады працы і 1,5 мільёны даляраў.

## Сірыйска-Малабарская Царква на шляху да поўнага самакіравання

Наданне Ватыканам індыйскай Сірыйска-Малабарскай Царкве права самой вырашаць літургічныя пытанні стала яшчэ адным крокам гэтай Царквы на шляху да поўнага самакіравання. Рашэнне было прынятае Янам Паўлам II па рэкамендацыі Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў. Пра гэта паведаміў 23-х сірыйска-малабарскіх біскупаў прэфект Кангрэгацыі кардынал Ахілес Сільвеструні.

У 1992 годзе Папа абвясціў Сірыйска-Малабарскую Царкву самакіруемай і прапанаваў ёй утварыць уласны Сінод. Аднак за Ватыканам заставалася права прызначэння біскупаў і вырашэння літургічных пытанняў. Апошняе рашэнне Рымскага Архірэя адносна Сірыйска-Малабарскай Царквы пацвярджае «ягоную веру ў іхнюю дактрынальную мудрасць і пастырскую пільнасць». Адначасна яно з'яўляецца адной са спробаў Апостальскай Сталіцы спрыяць вырашэнню дыскусіі, якая разгарнулася ў індыйскай Царкве. У выніку 3,1 мільёны католікаў сірыйска-малабарскага абраду падзяліліся на два лагеры: адныя прагнуць адраджэння даўніх царкоўных традыцыяў, у тым ліку — халкідонскай Літургіі, тады як іншыя патрабуюць новых рэформаў у Царкве.

У пісьмовым звароце да біскупаў кардынал Ахілес Сільвеструні адзначае, што «абарона спадчыны патрабуе вытрымкі і настойлівасці». Сцвярджаючы, што лацінізацыя Сірыйска-Малабарскай Царквы ў значнай ступені правакавала «канфлікты і непаразуменні», ватыканскі прадстаўнік заклікаў ерархаў да еднасці і гармоніі, неабходнай для далейшага прапаведвання Евангелля ў Індыі.

Архібіскуп Трыхурскі Якаб Тумкужы назваў дакумент, які падпісаў Папа, выклікам і, адначасова, магчымасцю для сірыйска-малабарскіх ерархаў сцвердзіць сваю сталасць. Пры гэтым ён дадаў, што трэба імкнуцца вырашыць дыскусію мірна і без ціску.

Як паведаміў апостальскі адміністратар архіепархіі Эрнакалум-Ангамалі архібіскуп Варкі Вітаяціл, Сінод біскупаў стварыў камітэт з 3 удзельнікаў для вывучэння літургічнага пытання. З гэтай нагоды ўвосень плануецца правесці таксама генеральную асамблею, у якой возьме ўдзел 400 прадстаўнікоў Царквы.

## Візіт дзяржсакратара Ватыкану на Украіну

31 траўня — 4 чэрвеня на Украіне з неафіцыйным візітам знаходзіўся дзяржаўны сакратар Ватыкану кардынал Анжэла Садана ў суправаджэнні працаўнікоў сакратарыяту а. Славенца і а. Брольё. У першы дзень візіту кардынал Садана ў суправаджэнні грэка-каталіцкіх і рыма-каталіцкіх ерархаў пабываў у нядаўна адноўленай і асвячанай славутай царкве св. Мікалая, што на Аскольдавай магіле ў Кіеве. Гэты храм, які з 1992 году належыць УГКЦ, яшчэ ў 855 годзе пабудавала роўнаапостальная княгіня Вольга ў памяць забітага князя Аскольда, у хрышчэнні Мікалая. Кардынал удзяліў благаславенне вернікам. Звяртаючыся да прысутных, ён адзначыў, што Грэка-Каталіцкая Царква багата цярпела, але «мінулае Гасподзь Бог запісаў у кнігу жыцця і яно стане падставаю для пабудовы будучыні Царквы».

1 чэрвеня ў Львове высокапастаўленыя прадстаўнікі Ватыкану ў саслужэнні ўкраінскіх рыма-каталіцкіх ерархаў Мар'яна Яворскага і Маркіяна Трафім'яка адслужылі ўрачыстую Літургію, на якой быў прысутнічаў біскуп-памочнік Першаерарха УГКЦ Любамір Гузар. Пасля набажэнства кардынал Анжэла Садана і Апостальскі нунцый на Украіне архібіскуп Антоніо Франка мелі сустрэчу з Першаерархам УГКЦ Міраславам Іванам кардыналам Любачыўскім, адведалі грэка-каталіцкую семінарыю ў Рудна і рыма-каталіцкую семінарыю ў Брухавічах. У гэты дзень адбыліся таксама сустрэчы кардынала Садана з кіраўніком абласной адміністрацыі і мэрам Львова. А ўвечары ў архікатэдры УГКЦ сабора св. Юра адбыўся малебен, які, разам з кардыналам, саслужылі ерархі Рыма- і Грэка-Каталіцкай Царквы.

2 чэрвеня кардынал А.Садана і архібіскуп А.Франка адправілі св. Літургію ў рыма-каталіцкай катэдры св. Аляксандра.

У наступны дзень дзяржсакратар Ватыкану сустрэўся з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам і першым віцэ-прэм'ерміністрам краіны Анатолем Галубчэнкам. Падчас сустрэчы былі абмеркаваныя пытанні двухбаковых стасункаў. Як адзначыў прэзідэнт Украіны Л.Кучма, «Украіна зацікаўлена супрацоўнічаць і мець сяброўскія адносіны з Ватыканам». Была таксама абмеркавана рэлігійная сітуацыя на Украіне, якая, паводле словаў прэзідэнта, «стабільная і прагназаваная». Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма і дзяржсакратар Ватыкану Анжэла Садана абмеркавалі пытанне адносна магчымага візіту на Украіну Святога Айца Яна Паўла II. На сустрэчы з першым віцэ-прэм'ер-міністрам Украіны кардынал Анжэла Садана падкрэсліў, што Ватыкан будзе падтрымліваць усе намаганні Украіны, скіраваныя на пабудову дэмакратычнага грамадства. Ён лічыць, што Украіна заслугоўвае быць раўнапраўным членам Еўропы. Кардынал запэўніў, што Ватыкан будзе паглыбляць дыялог з праваслаўным хрысціянствам, паколькі Рымскі Архірэй не адмаўляецца ад ідэалу аб'яднання ўсіх Цэркваў. Напярэдадні 2000-гадовага Юбілею Раства Хрыстовага неабходна зрабіць усё, каб шлях да паразумення і яднання розных рэлігійных канфесіяў стаў рэальнасцю. «Менавіта з гэтымі пажаданнямі мы і прыбылі на Украіну»,— сказаў кардынал Садана.

У другой палове дня 3 чэрвеня дзяржсакратар Ватыкану кардынал А.Садана меў сустрэчу з вышэйшымі ерархамі УГКЦ і РКЦ, а таксама асвяціў новае памяшканне нунцыятуры Рымскага Апостальскага Пасаду ў Кіеве. Падчас цырымоніі адкрыцця нунцыятуры кардынал Садана падкрэсліў даўнія стасункі паміж Руссю і Апостальскай Сталіцай і перадаў сардэчнае прывітанне ад Папы Яна Паўла II. Кардынал таксама адзначыў, што спадзяецца, што ягоны візіт на Украіну стане місіяй святога Яна Прадвесніка і неўзабаве прыйдзе дзень, калі Рымскі Архірэй асабіста прыедзе, каб блаславіць украінскі народ.

Сярод тэмаў, якія абмяркоўваліся падчас сустрэчаў дзяржсакратара Ватыкану з украінскімі каталіцкімі ерархамі былі наступныя: супрацоўніцтва Грэка-Каталіцкай і Рыма-Каталіцкай Царквы, душпастырская апека для ўкраінскіх грэка-каталіцкіх епархіяў за межамі Украіны, праблемы грэка- і рыма-каталіцкіх епархіяў на Украіне. Ішла гаворка таксама і пра ліст кардынала А.Садана адносна жанатых грэка-каталіцкіх святароў у Польшчы, які выклікаў вострую рэакцыю ў грэка-каталіцкім свеце.

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленняў Агенцтва рэлігійнай інфармацыі (АРІ), Каталіцкага інфармацыйнага агенцтва (KAI) і іншых прэсавых крыніцаў.*

Кірыла Невяроўскі

# Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква: сучасны стан, перспектывы развіцця*

## БГКЦ як Царква візантыйска-беларускага абраду

БГКЦ належыць да Цэркваў візантыйскае традыцыі, альбо абраду, які на беларускай культурнай глебе набыў адметныя нацыянальныя рысы.

Спачатку адкажам на пытанне — чым ёсць абрад. Гэта «літургічная, багаслоўская, духоўная і дысцыплінарная спадчына — розная што да культуры ды гістарычных абставінаў народаў — якая выяўляецца ў спосабе практыкавання веры, уласцівым для кожнае Царквы свайго права» *(Кодэкс Канонаў Усходніх Цэркваў, кан. 28)*.

Коранем нашага абраду ёсць візантыйская традыцыя. З візантыі хрысціянства прыйшло на нашы землі і прынесла з сабою асвету, багаслоўскую думку, візантыйскую літургію і манастычную духоўнасць. Акрамя Беларускай і Украінскай Цэркваў да візантыйскага абраду належаць таксама: Харвацкая, Грэка-Мельхіцкая, Грэка-Элінская, Венгерская, Італа-Албанская, Румынская і Славацкая Цэрквы. Іх гісторыя звязана з іншымі царкоўнымі уніямі.

Пра адметны візантыйска-беларускі абрад можна гаварыць дзякуючы перакладу на беларускую мову грэцкіх літургічных тэкстаў, які здзейсніў а. Аляксандр Надсан. Гэты пераклад Апостальская Сталіца зацвердзіла ў 1994 годзе. Немагчыма пераацаніць вартасць гэтага перакладу для адраджэння БГКЦ. Мае ён таксама не малую літаратурную вартасць. Калі разглядаць іншыя аспекты абраду: духоўнасць, багаслоўскую думку, партыкулярнае права, то зарана яшчэ на высновы. Гэтыя прадметы яшчэ чакаюць на ўласных багасловаў, знаўцаў царкоўнага права і гісторыі.

## БГКЦ: перспектывы на будучыню

БГКЦ выглядае сёння вельмі сціпла. Але гэта не прычына для роспачы ці сядзення склаўшы рукі. Наадварот, такая сітуацыя яшчэ больш нас мабілізуе і абавязвае. Мы глядзім у будучыню. Развіццё Царквы будзе залежыць перш за ўсё ад вызвалення нашае дзяржавы ад таталітарнага рэжыму і ўнутранае акупацыі. У вольным грамадстве зможа вольна развівацца Царква.

Другою пякучаю праблемаю ёсць катастрафічны недахоп святароў. З вялікай надзеяй мы чакаем на маладых святароў-беларусаў, якія вернуцца на Беларусь пасля заканчэння заходніх семінарыяў і пачнуць апостальскае служэнне. Тады Царква зможа аднавіць свой вобраз, сваю менталь-



*Беларускія святары а. С.Гаек (злева) і а. І.Кандрацьеў (2-і справа) адпраўляюць св. Літургію разам з венгерскімі грэка-каталіцкімі святарамі. Будапешт, 13.05.98.*

насць, пазбудзецца комплексаў «савецкага чалавека»: страху, апатыі, цынізму, адсутнасці жадання працаваць, жадання ўсё атрымоўваць дарам, адсутнасці талеранцыі да іншых вызнанняў.

БГКЦ адкрытая на кантакты з нашымі ўкраінскімі братамі грэка-католікамі. Мы асабліва ўдзячныя ім за разуменне нашых патрэбаў у час, калі Грэка-Каталіцкая Царква на Украіне толькі выйшла з падполля і сама перажывала цяжкі час. З пачаткам адраджэння нашае Царквы ўкраінскія святары служылі першыя святыя Літургіі, катэхізавалі і хрысцілі вернікаў, прапаведвалі Слова Божае ў Полацку, Віцебску, Менску. На Украіне ў Львове, Івана-Франкоўску атрымоўваюць адукацыю нашы кандыдаты на святароў. Манахі студыты з Украіны ў 1995 годзе пасля многіх гадоў нябыту заснавалі ў Полацку першы грэка-каталіцкі манастыр, а ў 1996 годзе — жаночы манастыр сёстраў студытак. Нашае супрацоўніцтва працягваецца. Ужо традыцыйнымі сталі пілігрымкі нашых вернікаў да святыняў у Гошаве, Зарваніцы, Уніве, Крэхаве. Адначасова ўкраінскія святары, манашкі і катэхеты прыязджаюць для вядзення місійнае дзейнасці ў нашых парафіях.

Наступным заданнем, якое стаіць перад нашаю Царквою, ёсць аднаўленне ўласнае эклезіяльнае тоеснасці. Гэтую тоеснасць можна акрэсліць выразам: «праваслаўныя па веры, каталіцкія ў любові». Гэта значыць вернае захаванне і памнажэнне сваёй традыцыі ў любові ды адкрытасці да іншых. Гэтае аднаўленне патрабуе ад нас пазбаўлення ад лацінізмаў у візантыйскім абрадзе. Прыгадаю, што лацінізмамі ёсць бязглуздыя і недарэчныя запазычанні ў літургіі, багаслоўі, духоўнасці, перанятыя з лацінскага абраду. Лацінізацыя як вынік комплексу непаўнавартасці павінна адыйсці ў гісторыю. Адыход ад усходняй духоўнасці, канонаў, архітэктуры і інтэр'ераў святыняў супярэчыць сучаснаму духу Каталіцкай Царквы, якая прагне захаваць адзінства ў разнастайнасці. Святы Айцец Ян Павел II у сваіх прамовах і энцыкліках, скіраваных да Усходніх хрысціянаў, падкрэслівае важнасць захавання імі свайго абраду, вяртання да традыцыі Вялікіх Айцоў Царквы: Яна Залатавуснага, Васіля Вялікага і інш. Лацінізацыя была мутантам, якога нарадзіў фенамен «уніятызму», на які праваслаўны свет глядзіць як на гібрыд. Папулярна можна сфармуляваць яго наступнымі словамі: ад свайго адышлі, а да чужога не дайшлі. Уніятызм стаў формаю падпарадкавання адной Царквы іншай, страчваннем уласнае ідэнтычнасці праз чужыя ўплывы і лацінізацыю, спосабам паяднання ў мінулым. Сёння ён цалкам неактуальны. Каталіцкая Царква звяртае ўвагу на неабходнасць паўнаты ўласнае ўсходняе тоеснасці, каб падкрэсліць свой паўсюдны, усяленскі характар.

Іншай паважнай праблемай, якая вымагае развязкі, застаецца брак талеранцыі паміж хрысціянамі. Гэта смутная сітуацыя выяўляецца ў страху адно перад адным, ва ўзаемных падазрэннях і адсутнасці здаровае гнуткасці. Заўважаецца гэта не толькі ў адносінах з братамі праваслаўнымі. Не зважаючы на гэта, БГКЦ робіць экуменічныя крокі на асабістым узроўні, культывуючы добрыя прыватныя сувязі са святарамі і свецкімі іншых Цэркваў, перш за ўсё з Праваслаўнаю Царквой. Трэба імкнуцца паступова выраўноўваць прадузятасць і стэрэатыпы мінулага, якія назбіраліся яшчэ з царскіх часоў.

З вялікім спадзяваннем БГКЦ чакае аднаўлення ўласнае ерархічнае структуры — Экзархату — і прызначэнне экзархам святара альбо біскупа — беларуса.

Спадзяюся, што наша Царква парадзіць сабе з гэтымі праблемамі і паяднае ў сабе праваслаўную тоеснасць з каталіцкаю адкрытасцю і паўсюднасцю. Тады будзе спаўняцца на нашай зямлі воля Госпада Ісуса Хрыста *«каб усе былі адно»*.

* *Пачатак у № 1 за 1998 год*

## Творчасць нашых чытачоў

**Уладзімір Мураўскі**

### Рэквіем*

Ля закінутых шляхоў
белы храм на раздарожжы —
свеціць велічным святлом,
у нямой глушы бязбожжа...
І ляціць з глыбінь вякоў
неяк скрушна, урачыста —
побач з лямантам званоў —
«Плач» сівога арганіста...

* *з лаціны — плач*

*г.Берасце*

Урывак з кнігі Альберта Аблондзі «Ніякіх навучанняў»

# "Мы ўжо не ведаем, каму верыць"





*Дарагі біскуп Альберта!*

*Перш за ўсё мы хочам табе падзякаваць, бо ты адзін з тых нямногіх, хто намі цікавіцца. Скажам так: многія гавораць пра нас, але мала хто гаворыць з намі! І ўжо зусім ніхто ніколі не адведаў нас. А вось у цябе хапіла мужнасці прыйсці ў самую гушчыню — туды, дзе мы тусуемся. Ты ж не ведаў нас — ці ж мала што магло б з табою здарыцца?! Дарэчы, нам вядома, што цябе не расчаравала нашая гасціннасць.*

*Мы б яшчэ хацелі табе сказаць, што пакуль не ведаем, якімі ёсць нашыя ўражанні ад жыцця, якім будзе наш лёс. Ты жадаеш ведаць, якім ёсць наш духоўны стан? Для таго, каб яго ахарактарызаваць,— трэба бачыць перад сабою ўвесь сучасны свет: з сацыяльнаю, палітычнаю, гістарычнаю сітуацыяй, якую мы перажываем,— дык прыйдзецца нам, відаць, скарыстаць тыя вызначэнні, якія могуць прынесці табе боль. Мы больш не ведаем, каму верыць, не ведаем, у што верыць, адчуваем сябе адкінутымі; але, мала таго, мы яшчэ і расчараваныя, у некаторай ступені эксплуатаваныя і, галоўнае,— здэзарыентаваныя.*

*Мы б хацелі ведаць, ці ж можа рэлігія, пры такім стане рэчаў, усё роўна заставацца каштоўнасцю і быць для нас карыснаю: калі яна карысная для нас, чаму б ёй не стацца карыснаю і для іншых? Думаем, ты разумееш наступствы. Нам здаецца, што ў тваіх выступленнях чуецца гэты заклік. Так, і мы таксама, калі знойдзем верны шлях, непазбежна захочам указаць яго іншым.*

*Ну вось, цяпер ты нас ведаеш: табе вядома, што мы тыя, хто не ведае, куды ісці; табе вядома, куды б мы жадалі ісці. Ці можам прайсці разам некалькі крокаў?*

*Дзякуем.*

**Некалькі юнакоў і дзяўчат з «плошчы»**

Дарагія мае!

Перш за ўсе, дзякуй вам за прапанову сустрэцца: я б таксама жадаў гэтага. І яшчэ — і гэта, бадай, галоўнае — мяне парадаваў ваш настрой: вы не хочаце заставацца ў тым становішчы, пра якое пішаце ў сваім лісце. Так, надта зручная пазіцыя — гаварыць, што іншыя нам нічога не даюць. Надта лёгка абвінавачваць іншых у тым, што яны прапануюць адны толькі спакусы; надта наіўна — спадзявацца атрымаць ад іншых усё ў гатовым выглядзе, быццам яны павінны шукаць замест нас саміх.

Разам з тым, павінен прызнаць, што свет і, асабліва, моладзь, аказаліся сёння без арыенціраў, такіх, якімі ў недалёкім мінулым былі, напрыклад, некаторыя палітычныя дзеячы, якіх падносілі да ўзроўню легенды; некаторыя ідэалогіі, якім маліліся як рэлігіям; некаторыя краіны, якія лічыліся прыкладам для капіравання. Так што ў сённяшняй сітуацыі з асобаю вастрынёй і неадкладнасцю паўстае пытанне пра значэнне рэлігійных каштоўнасцяў.

І таму я б сказаў, што ваша разгубленасць цудоўна напаўняецца ўсім тым, што можа прапанаваць Царква.

Апісваючы сваё становішча, вы скарысталі шмат розных вызначэнняў. Я б здолеў абысціся адным: як і многія дарослыя, вы, маладыя, як бы «сіроты». Сірата — гэта той, у каго няма арыенціраў; той, у каго не ахаваны тыл; той, побач з кім няма чалавека, які б клапаціўся пра ягонае ўзрастанне без ніякае выгоды для сябе, аддаючы ўсё свайму выхаванцу. І вось, менавіта ў адносінах да такога вашага «сіроцтва» Царква з'яўляе не толькі сама сабе,— яна наогул створаная не для таго, каб прадстаўляць сябе,— а для таго, каб памагчы вам адкрыць «Бога Айца». Я не здольны ў адным лісце глыбока і падрабязна разгледзець гэтыя пытанні, але, калі ў вас будзе магчымасць прачытаць мае заўвагі, апублікаваныя ў маёй кнізе пасля вашых лістоў, вам адкрыецца ўсё значэнне такога Боскага Бацькоўства. Яно дае сэнс жыццю, дае надзею на кожнае імгненне, памнажае радасць, стварае вакол нас свет братоў. І галоўнае, ведаеце, што можа даць вам гэтае бацькоўства? Яно дае вам самога сябе. Не толькі гадуючы вас, як зямны бацька, яно дае вам нашмат больш! Яно давярае вам самое гэтае бацькоўства, гэта значыць, робіць вас адказнымі за свет, у якім вы жывяце, адказнымі за людзей, якіх сустракаеце. Падумайце толькі: вы былі дэзарыентаваныя, не ведалі, куды ісці,— а можаце павесці за сабою іншых; вы збіліся са шляху,— а можаце ўказваць шлях; былі пакінутыя,— а можаце даваць прытулак іншым. І ўсе гэта так цудоўна выказана ў першых словах малітвы, якую мы вымаўляем, робячы знак крыжа на сябе, у тых словах, якія, можа быць, вы паўтаралі столькі разоў, але не ўдумваючыся,— «У імя Айца».

Гэтымі словамі я развітваюся з вамі сардэчна.

**† Альберта**

# Айцец Ян Матусевіч: "Я адчуў Боскае пакліканне"

*21 чэрвеня гэтага году кіраўнік Дэканату Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы протапрасвітар а. Ян Матусевіч спраўляе свой 50-гадовы юбілей, а ў наступным годзе споўніцца 25 гадоў ягонай святарскай дзейнасці. З нагоды юбілею айца Яна рэдакцыя «Царквы» вырашыла бліжэй пазнаёміць сваіх чытачоў з кіраўніком БГКЦ.*

***— Айцец Ян, раскажыце трошкі пра Вашыя карані, пра Ваш шлях да Бога і пра тых, хто даў Вам хрысціянскае ўзгадаванне.***

— Я нарадзіўся ў 1948 г. ў сталіцы Беларусі г.Менску ў сям'і простых працаўнікоў. Мой бацька — Ян, сын Піліпа, паходзіць з в.Кандратавічы Лагойскага р-ну, што на Меншчыне. Калі бацьку было 10 гадоў, памерла ягоная маці, пакінуўшы 4 дзяцей (малодшаму было ўсяго 1 месяц). Таму мой дзед ажаніўся другі раз, узяўшы за жонку Марыю з дому Івінскіх. У часе II Сусветнай вайны яна трагічна загінула разам з малодшай сястрой майго бацькі і яе малымі дзеткамі — фашысты спалілі іх жыўцом у будынку школы разам з іншымі жыхарамі в.Кандратавічы. У 1943 г. майго бацьку прымусова вывезлі ў Нямеччыну, дзе ён працаваў на баўэра. За спробы ўцячы яго колькі разоў жорстка збівалі, і калі ў 1945 г. ён вярнуўся ў Менск, то не меў ніводнага зуба, але затое прыдбаў цяжкую грыжу. Бацька быў веруючым чалавекам, пакуль былі сілы хадзіў да царквы. Дарэчы, да вайны ён вельмі сябраваў са сваім стрыечным братам, які быў праваслаўным святаром, але ў канцы 40-х гг. бальшавікі яго расстралялі.

Мая маці — Анастасія, дачка Галляша з дому Карповічаў нарадзілася ў в.Камянец на Меншчыне, што за 10 кіламетраў ад Радашковічаў. Сям'я маёй маці была таксама шматдзетная (было 7 дзяцей, але 2 памёрлі) і бедная. У 42 гады бацька маёй маці заўчасна памёр. Дзеці былі яшчэ зусім малыя — старэйшай дачцэ 12 гадоў, а меншаму брату ўсяго 6 месяцаў — і далей выхоўваліся без бацькі.

Мае бацькі пажаніліся перад вайной. У 1939 г. бацькі чакалі дзяўчынку, але яна нарадзілася мёртвай. Праз два гады нарадзіўся мой брат Андрэй, якога святар патаемна ахрысціў у хаце. Але ў 1943 г., у час, калі фашысты гналі бацьку ў Нямеччыну, ён памёр ад дыфтэрыі. Усе гэтыя перажыванні адмоўна адбіліся на здароўі маёй мамы. Усё жыццё яна працавала простай работніцай. Перад вайной была хатняй гаспадыняй у кампазітара Самуіла Палонскага, які напісаў шмат песняў на творы Янкі Купалы. У яго дома яна неаднойчы бачыла і іншых беларускіх паэтаў. У гады вайны мая маці разам са сваёй роднай сястрой, рызыкуючы сваім жыццём, патаемна насіла ежу ў габрэйскае гета ў Менску для жонкі і малых дзяцей Палонскага (іх пазней усіх расстралялі).

Мяне хрысцілі 29 жніўня 1948 году ў менскай Аляксандра Неўскага царкве. Св. Тайны Хросту і Мірапамазання ўдзяліў мне протаерэй Яўстафій Баслык, які праз пару год быў расстраляны НКВД. Рэлігійнае ўзгадаванне я атрымліваў ад сваіх бацькоў. А на вакацыях, калі адпачываў у Заслаўі, мною шмат апекаваліся бабуля (яна была каталічкай) і вельмі пабожная цётка — старэйшая сястра маёй маці, якая спявала ў хоры ў праваслаўнай царкве. Бабуля вазіла мяне з сабой да касцёлу ў в.Краснае, што каля Маладэчна. Але тагачасныя бязбожныя ўлады пільнавалі, каб дзеці і падлеткі не ішлі разам з дарослымі ў касцёл і не пускалі нас. Аднойчы, пасля наведвання разам з бацькамі на другі дзень Пасхі царквы ў Менску, мяне разам з іншымі вучнямі, што таксама былі ў царкве, «прарабатывалі» на школьных зборах, а настаўнікі пачалі наўмысна заніжаць адзнакі. У такой атмасферы адбывалася маё рэлігійнае выхаванне.

***— Калі Вы адчулі святарскае пакліканне, чым Вы займаліся ў той час?***

— Пасля 8 класаў я пайшоў працаваць вучнем слесара радыёапаратуры на радыёзавод (цяпер ВА «Гарызонт»), адначасова вучыўся ў вячэрняй школе. У перыяд з 1964 па 1974 год я працаваў на самых розных пасадах: тэлеграфістам на Галоўпаштампце, старэйшым лабарантам у Акадэміі навук, інкасатарам у Дзяржбанку, быў на кіруючых пасадах у Дамах культуры і клубах, працаваў намеснікам дырэктара па адміністрацыйна-гаспадарчай частцы ў школе. У 1969 годзе я скончыў драматычнае аддзяленне рэспубліканскіх курсаў Міністэрства культуры і затым паступіў на вучобу ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут на рэжысёрскае аддзяленне факультэта культасветработы (закончыў у 1973 г.). Ужо напрыканцы майго навучання там у мяне з'явілася вельмі вялікае жаданне, прага стаць святаром. Тады я адчуў Боскае пакліканне.



Дэкан БГКЦ а. Ян Матусевіч з дыяканам А.Абламейкам.

***— Ваш шлях да святарства, да Уніяцкай Царквы быў няпросты. Вы былі праваслаўным святаром, затым працавалі рыма-каталіцкім ксяндзом і вось цяпер — дэкан Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Як гэта сталася?***

— Калі я адчуў пакліканне стаць святаром, я звярнуўся да афіцыйных уладаў, да ўпаўнаважанага па справах рэлігіі з просьбай даць мне накіраванне ў семінарыю, да таго ж, менавіта ў каталіцкую семінарыю. Тады быў такі парадак: хочаш вучыцца ў семінарыі — мусіш звяртацца ў Савет па справах рэлігіяў. Спачатку мяне там высмяялі — як гэта так: меўся стаць культасветработнікам, а надумаў быць святаром. Потым мне пачалі гаварыць, што я не змагу стаць каталіцкім святаром, маўляў, у нас у Беларусі няма каталіцкіх семінарыяў. Тады ў былым СССР існавалі толькі 2 семінарыі: адна ў Каўнасе, другая — у Рызе. Я паехаў у Каўнас. Для навучання там трэба было адпавядаць тром умовам: мець сталую прапіску ў Літве, валодаць літоўскай мовай, а таксама ўпаўнаважаны па справах рэлігіяў з Беларусі мусіў звярнуцца з адпаведным хадайніцтвам да ўпаўнаважанага з Літвы. У такіх умовах у мяне не было ніякіх шанцаў. Але ўпаўнаважаны заўважыў, што можна пайсці на кампраміс. Калі я буду «аказваць дапамогу», тады яны паспрыяюць майму паступленню. Дапамога, як мне сказалі, павінна была быць у наступным: калі нехта з прафесароў, выкладчыкаў ці семінарыстаў будзе выказвацца супраць савецкай улады, то Вы, калі ласка, запамінайце прозвішчы, што і хто калі гаварыў, у прысутнасці каго і потым нам гэта паведамляйце. Я сказаў, што быць даносчыкам — не ў маіх правілах. У адказ пачуў, што ў такім разе я ніколі не стану святаром. Што мне было рабіць?

Са студзеня па красавік 1974 г. спяваў у царкве Аляксандра Неўскага ў Менску. Затым я вымушаны быў паехаць у Расію. У Смаленску ва Успенскім катэдральным саборы я быў панамаром, потым пэўны час — псаломшчыкам у царкве г.Гагарын, і толькі пасля гэтага ўлады далі дазвол, каб Смаленскі епіскап высвяціў мяне ў святары. Спачатку я быў высвячаны на дыякана, а 29 жніўня 1974 году епіскап Смаленскі і Вяземскі Феадосій высвяціў мяне ў Смаленску на святара. Мяне паслалі ў с.Спас Новадугінскага раёну Смаленскай вобласці, у самую глухую парафію, куды не хадзіў ніякі транспарт, а да бліжэйшай чыгуначнай станцыі было 20 кіламетраў. Поўнае бездарожжа! Настаяцелем царквы Перамянення Гасподняга ў с.Спас я працаваў да 1978 году.

Затым я зноў вярнуўся ў Беларусь. Са студзеня 1978 году год працаваў святаром у менскай царкве Аляксандра Неўскага, а наступныя паўгады быў настаяцелем Успенскай царквы ў в.Маркава Маладэчненскага раёну.

Яшчэ ў 1975 годзе я паступіў на завочнае аддзяленне праваслаўнай духоўнай семінарыі ў Загорску (цяпер Сергіеў Пасад), і вучыўся там да 1979 году. У гэтым жа годзе я паехаў у Польшчу да свайго сябра, які ўжо быў рыма-каталіцкім святаром. Дзякуючы ягонай рэкамендацыі і з дазволу Яго Эмінэнцыі кардынала Стэфана Вышынскага, пасля іспыту на веданне мною асноваў каталіцкае веры, вызнання веры і складання абавязку захоўваць цэлібат, па распараджэнні біскупа Яна Ярашэвіча, ардынарыя Келецкага, я быў прыняты ў Каталіцкую

Царкву. Адначасна я атрымаў дазвол на выкананне святарскіх функцыяў у гэтай Царкве. У жніўні 1979 году мітрапаліт Менскі і Беларускі Філарэт выдаў указ пра забарону выконваць мне святарскія абавязкі ў Праваслаўнай Царкве. Але, па маёй просьбе, 8 жніўня 1981 году, ён сваім указам гэтую забарону з мяне зняў.

Па вяртанні ў Беларусь паводле распараджэння тагачаснага генеральнага вікарыя ксяндза пралата Станіслава Кучынскага я быў прызначаны ў Віленскую архідыяцэзію пробашчам рыма-каталіцкай парафіі св. апосталаў Пятра і Паўла, што ў в.Баруны Ашмянскага раёну Гарадзенскай вобласці. Там захаваўся прыгожы комплекс былога базыльянскага манастыра, які быў пабудаваны ў сярэдзіне XVIII стагоддзя. Пробашчам у Барунах я працаваў дзесяць гадоў да красавіка 1990 году.

Да траўня 1991 году з дазволу Апостальскага адміністратара Гарадзенскай дыяцэзіі біскупа Тадэвуша Кандрусевіча знаходзіўся ў акадэмічным адпачынку па стану здароўя.

Як я ўжо адзначаў, мае тата і мама былі хрышчаны ў праваслаўнай царкве, а вось дзяды — у рыма-каталіцкай. Але мне ўдалося выявіць праз даследаванне сямейнага радаводу, што ўсе мае прадзеды і прапрадзеды былі ўніятамі. Прага хрысціянскай еднасці — гэта натуральна для кожнага верніка. У чэрвені 1991 году я быў прыняты Ардынарыем Івана-Франкоўскай грэка-каталіцкай епархіі біскупам Сафронам Дмытэркам пад ягоную юрысдыкцыю да канчатковага вырашэння справы Апостальскім Пасадам. Праз два гады біскуп С.Дмытэрка прызначыў мяне на пасаду дэкана беларускіх грэка-католікаў, таксама да канчатковага вырашэння гэтага пытання Апостальскім Пасадам. 16 траўня 1994 году Кангрэгацыя Усходніх Цэркваў афіцыйна пацвердзіла мае правы дэкана і параха.

***— Вы згадвалі, што на Вас спрабавалі «ціснуць», калі Вы хацелі паступіць у каталіцкую семінарыю. Ці былі падобныя спробы пазней?***

— Ад самага пачатку я рашуча адхіліў настойлівыя спробы нахіліць мяне да супрацоўніцтва з КГБ, і таму пазней неаднаразова падчас маёй святарскай дзейнасці на мяне быў ціск з іх боку. Пасля пераходу ў Каталіцкую Царкву паўгода ўлады не давалі мне працаваць на парафіі, выклікалі, пагражалі тым, што пасадзяць за здраду Радзіме, бо я, быццам, стаў агентам Ватыкану, а гэта значыць і ЦРУ. У мяне адбіралі даведкі аб рэгістрацыі (за агароджванне царкоўнага цвінтара ў парафіі на Смаленшчыне, за накрыццё царквы новым дахам у в.Маркава ў Маладэчненскім раёне), штрафавалі за рамонтныя і будаўнічыя працы, а таксама за ўдзел дзяцей у працэсіі і катэхізацыю ў Барунах. Неаднаразова выклікалі на размову ў ваенкаматы з супрацоўнікамі КГБ. У 1981 годзе, калі спецслужбамі быў арганізаваны замах на жыццё Святога Айца Яна Паўла II, у касцёле ў Барунах, дзе я тады працаваў, я пастаянна заклікаў люд Божы маліцца ў інтэнцыі аб выздараўленні Папы, ахвяроўваў Службы Божыя за ягонае здароўе. За гэта тагачасныя чыноўнікі з апарату савета па справах рэлігіяў заўсёды дакаралі. Я ж адказваў, што маліцца за Кіраўніка Царквы — гэта, па-першае, мой святарскі абавязак, а па-другое, я лічу, што маліцца за нявінна пацярпелых — гэта абавязак кожнага чалавека, не гледзячы на тое, якой ён веры.

***— Айцец Ян, Вас часта можна бачыць на розных грамадскіх імпрэзах. Раскажыце пра гэты бок Вашага жыцця.***

— Грамадска-рэлігійнай дзейнасцю я пачаў займацца з 1988 году. Я падтрымліваю добрыя экуменічныя стасункі з прадстаўнікамі іншых рэлігійных канфесіяў: праваслаўнымі, баптыстамі, мусульманамі, юдэямі. Неаднойчы мне даводзілася выступаць на тэлебачанні, радыё, у прэсе, на розных канферэнцыях і імпрэзах. У 1988 г. я быў ці не адзіным прадстаўніком каталіцкага духавенства з Беларусі на святкаванні 1000-годдзя хрышчэння Русі ў Маскве і Загорску. У тым жа годзе ўдзельнічаў у канферэнцыі «1000-годдзе хрышчэння Русі і беларускі народ», якая праходзіла ў Лондане. У 1989 годзе мне давялося быць удзельнікам устаноўчага з'езду БНФ «Адраджэнне». У тым жа годзе на Дзяды я асвячаў мемарыяльны крыж у Курапатах, які ўстаноўлены ў памяць ахвяраў сталінізму. З таго часу штогод на Дзяды і Радаўніцу заўсёды бяру ўдзел у жалобным набажэнстве па ахвярах сталінізму. Не застаўся абыякавым і да Чарнобыльскай трагедыі, якая пэўны час у нас замоўчвалася. На пачатку 1990-х гадоў я неаднаразова прымаў удзел у круглых сталах, прысвечаных праблемам Чарнобыля, быў удзельнікам шэсця «Чарнобыльскі шлях» і разам з праваслаўным святаром асвячаў абраз Маці Божай Чарнобыльскай.

Сярод асобаў, якіх мне ў свой час давялося ахрысціць, шмат вядомых у Беларусі людзей: праф. А.Грыцкевіч і ўся ягоная сям'я, праваслаўныя святары а. С.Гардун і а. А.Гаранін, наш грэка-каталіцкі святар з Полацка ераманах Пахом і шмат іншых, сярод якіх ёсць пісьменнікі, мастакі, дзеячы тэатру, журналісты.

Акрамя душпастырскай працы сярод беларускай інтэлігенцыі, а на пачатку 1990-х гадоў сярод скаўтаў і вязняў, праз Беларускае біблійнае таварыства распаўсюджваю Святое Пісанне сярод інвалідаў, састарэлых, хворых вязняў, навучэнцаў.

З 1989 году я быў удзельнікам усіх з'ездаў Таварыства беларускай мовы, а з 1992 году — пастаянны сябра Рады Таварыства. У свой час я быў другім пасля кс. У.Чарняўскага беларускім святаром у Беларусі, які пачаў адпраўляць набажэнствы па-беларуску. У нашай Грэка-Каталіцкай Царкве мы молімся па-беларуску, выдаем малітоўнікі, і гэта ёсць нашым укладам у справу адраджэння роднай мовы. Удзельнічаю таксама ў працы і іншых арганізацыяў: Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў свету, Згуртавання беларускай шляхты, Аб'яднання беларускіх скаўтаў, Біблійнага таварыства, Беларускага таварыства інвалідаў. У шэрагу з іх я ўваходжу ў склад кіруючых органаў.

***— Рэдакцыя «Царквы» ад імя ўсіх нашых чытачоў і вернікаў шчыра віншуе Вас, айцец Ян, з 50-гадовым юбілеем. Няхай Госпад бласлаўляе Вас у Вашай душпастырскай працы, увесь час падтрымлівае і ўмацоўвае Вас дзеля адраджэння нашае Царквы і Бацькаўшчыны.***

## Грэка-каталіцкая Царква св. Сафіі стала Малой Базілікай

Ідучы за даўнім царкоўным звычаем адмысловае адзнакі і прывілея асобным храмам, якія вызначаюцца красою ў каталіцкім свеце, Рымскі Архірэй Ян Павел II на просьбу Першаерарха Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы мітрапаліта Міраслава Івана кардынала Любачыўскага, праз рукі Пракуратара УГКЦ ў Рыме біскупа Івана Хомы, удастоіў тытулу «Малой Базілікі» грэка-каталіцкую царкву св. Сафіі ў Рыме. Тытул «Малой Базілікі» звычайна атрымліваюць цэнтральныя цэрквы, саборы, катэдры епархіяў, якія з'яўляюцца ўзорнымі для служэння святых Літургіяў сваёю архітэктураю і красою, або калі яны пабудаваныя з нагоды нейкай гістарычнай падзеі і маюць пэўнае гістарычнае значэнне. У папскім Дэкрэце ад 21 студзеня 1998 году адзначана, што гэту царкву «пабудаваў з пабожным жаданнем кардынал Ёсып Сліпы — Вярхоўны Архібіскуп Львова для ўкраінцаў, муж асаблівае веры, светлай памяці,— як цэнтр для святарскіх пакліканняў, а таксама для духоўнага жыцця вернікаў гэтага абраду, якія жывуць у Рыме». У часы забароны Грэка-Каталіцкай Царквы ў былым СССР храм св. Сафіі ў Рыме сімвалічна служыў перад светам як духоўны цэнтр пераследаванай Царквы.



Звычайна царква з тытулам «Малой Базілікі» мае некалькі святароў, якія могуць служыць у ёй св. Літургію, спавядаць, удзяляць св. Тайны, абрады і блаславенні. З тытулам Малой Базілікі звязаныя пэўныя абавязкі, а таксама розныя ласкі і прывілеі. Вернікі, якія адведваюць базіліку, пры выкананні пэўных умоваў атрымліваюць поўны водпуст, а на пячатках, харугвах ці іншых святых прадметах базілікі ўжываецца «папскі сімвал» — складзеныя крыж-на-крыж ключы ап. Пятра. Аналагічны тытул сёння маюць такія вялікія водпуставыя мясціны, як Лурд, Фаціма і інш.

# Паломніцтва беларускіх грэка-католікаў у Святую Сталіцу

*Працяг, пачатак на стар.2-3*

ягонай асабістай капліцы і прыватная аўдыенцыя ў Папы. Падчас св. Імшы разам з Рымскім Архірэем саслужылі беларускія святары — Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек і парах Берасцейскай парафіі святар Ігар Кандрацьеў. Пасля Імшы пілігрымы з Беларусі мелі ўнікальную магчымасць трапіць на прыватную аўдыенцыю да Рымскага Архірэя. Такі вялікі гонар — быць асабіста прадстаўленымі Першаерарху Каталіцкай Царквы выпадае далёка не многім, а тым больш для простых вернікаў. Увага, якую ўдзяліў Папа Ян Павел II прадстаўнікам Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, мае выключна важнае значэнне для нашай яшчэ такой невялікай Царквы. Святы Айцец з цікавасцю выслухаў інфармацыю пра рэлігійнае жыццё, здабыткі і планы беларускіх грэка-католікаў, азнаёміўся з апошнімі выданнямі, падрыхтаванымі рэдакцыяй «Царквы» (новым малітоўнікам для вернікаў, газетай «Царква»). Святы Айцец блаславіў святароў і вернікаў на працу, скіраваную на адраджэнне Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Беларусы трапілі таксама на генеральную аўдыенцыю да Папы, якую ён дае кожную сераду на плошчы Святога Пятра для паломнікаў, што прыязджаюць у Святую Сталіцу з усяго свету. У Літургіі Слова разам са Святым Айцом удзельнічалі некалькі тысячаў вернікаў, сярод якіх былі прадстаўнікі шматлікіх хрысціянскіх арганізацыяў, студэнты, школьнікі, спартсмены і нават паліцэйскія.





*Беларускія грэка-католікі падчас прыватнай аўдыенцыі ў Святога Айца. Ватыкан, 5.05.1998.*

У часе пілігрымкі ў Апостальскую Сталіцу беларускія грэка-католікі праехалі на аўтамабілі больш за шэсць тысячаў кіламетраў. Гэта была цудоўная магчымасць бліжэй пазнаёміцца са сваімі братамі грэка-католікамі, разам памаліцца, глыбей пазнаць традыцыі і рэлігійнае жыццё Усходніх Каталіцкіх Цэркваў ды супольнасцяў Еўропы ў Чэхіі, Славакіі, Венгрыі, Польшчы і Італіі.

У Чэхіі, па дарозе ў Рым, беларусы не маглі абмінуць мясціны, звязаныя з дзейнасцю беларускага першадрукара Францішка Скарыны. Мемарыяльная шыльда нашаму славутаму суайчынніку ўстаноўлена ў Празе якраз каля грэка-каталіцкага храму, у якім нашы святары разам з чэшскімі адслужылі св. Літургію.

Не абмінулі і кірыла-мятодаўскія мясціны ў маляўнічай Маравіі, дзе вялі сваю місіянерскую дзейнасць настаўнікі славянаў св. Кірыла і Мятод. У Велеградзе, дзе была біскупская катэдра св. Мятода, дзе ў 20-ыя гады нашага стагоддзя праводзіліся унійныя з'езды, беларускія грэка-католікі памаліліся і адспявалі акафіст у гонар Багародзіцы ля іконы Маці Божай хрысціянскай еднасці.

Зваротны шлях з Рыму ляжаў праз Аўстрыю, Венгрыю, Славакію і Польшчу. У Будапешце беларусы былі гасцінна прынятыя грэка-каталіцкім біскупам Сілардам Кэрэстэшам. У сталіцы Венгрыі нашы святары саслужылі падчас ранішняй Літургіі, падчас якой некалькі літаній прагучалі і па-беларуску. Знаёмства з грэка-католікамі ў Венгрыі працягнулася ў семінарыі ў г.Ныірэдзьгаза (тут знаходзіцца сядзіба біскупа). У славутым санктуарыюме ў Мар'япоўч, дзе ў базыльянскім манастыры месціцца цудатворная ікона Маці Божай, беларусы ўшанавалі Багародзіцу акафістам у сваёй роднай мове.

У Славакіі адбылося нашае знаёмства з айцамі рэдэмптарыстамі ўсходняга абраду ў Міхалёўцах, а ў Кошыцэ — сустрэча з протасінкелам Кошыцкага экзархату, а таксама з калегамі з грэка-каталіцкага часопіса «Слова», для якога мы далі спецыяльнае інтэрв'ю. Падчас кароткага прыпынку ў Прэшаве мы наведалі катэдральны храм мясцовай епархіі.



*Беларускія і чэшскія грэка-католікі ля мемарыяльнай шыльды Ф.Скарыну ў Празе, 1.05.1998.*

Наш апошні прыпынак быў у Любліне, у Доме студыяў св. Кірылы і Мятода закону Марыянаў. Тут заўжды чакаюць і гасцінна прымаюць грэка-католікаў з Беларусі і Украіны. Шмат іх праходзіць тут навучанне. У невялікай капліцы Дома студыяў беларусы склалі падзячныя малітвы Госпаду і настаўнікам славянскім св. Кірылу і Мятоду, якія былі нашымі нябеснымі апекунамі ў часе паломніцтва ў Святую Сталіцу.

Сёння грэка-католікі ў многіх краінах Еўропы вельмі дынамічна развіваюцца, і гэта не можа не надаваць аптымізму іх беларускім братам, якія шчыра вераць, што прыйдзе час, калі адродзіцца Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква, калі хрысціяне прыйдуць да еднасці ў адзінай Царкве Хрыстовай.

---

♦ У Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве адчуваецца моцны недахоп святароў, але вернікі ўсё роўна мусяць збірацца для малітвы, асабліва ў нядзелі і святы. Каб дапамагчы царкоўным грамадам, якія не маюць сваіх святароў, наладзіць іх малітоўнае жыццё, рэдакцыя газеты «Царква» распрацавала чын Абедніцы на беларускай мове. Для адпраўлення гэтага набажэнства прысутнасць святара не абавязковая. Практыку адпраўлення Абедніцы, калі няма святара, выкарыстоўваюць у Баранавічах, Івацэвічах, Берасці, Гомелі, Магілёве і інш. парафіях. Вернікі з мясцовасцяў, дзе няма грэка-каталіцкіх парафіяў, якія маюць жаданне збірацца на сумесную малітву, могуць звяртацца па дапамогу ў рэдакцыю «Царквы».

# Вялікдзень у Баранавічах

Ужо не першы год на Вялікдзень многія вернікі берасцейскай, івацэвіцкай і баранавіцкай грэка-каталіцкіх парафіяў збіраюцца разам. Гэтаму спрыяе адсутнасць уласных храмаў ды тое, што ўсе тры парафіі абслугоўвае адзін святар — а. Ігар Кандрацьеў. На гэты раз пасля велікоднай службы ў Берасці частка вернікаў парафіі паехала ў Баранавічы, дзе на другі дзень Пасхі святочная літургія служылася ў ласкава прапанаваным нам рыма-каталіцкім храме айцоў вярбістаў. Тут да берасцейцаў і мясцовых парафіянаў далучыліся таксама івацэвіцкія вернікі, што здолелі пад'ехаць на ўласным транспарце.



*Малебен за беларускі народ ля памятнага крыжа ахвярам рэпрэсіяў у Баранавічах. Вялікдзень, 12.04.1998.*

Прыемна было бачыць запоўненую вернікамі царкву Святой Тройцы, чуць шчырую малітву ў роднай беларускай мове. Безумоўна, для ўсіх нас такія малітоўныя спатканні, асабліва ў светлы дзень Хрыстовага Уваскрасення, вельмі дарагія, бо дапамагаюць адчуць нашую еднасць, адчуць радасць ад вялікага свята і ўмацоўваюць веру і надзею ў адраджэнне нашае Царквы і Бацькаўшчыны. Святочны настрой вернікаў прыўзнялі таксама хрысціянскія песні пад гітару ў выкананні Зміцера Паталятава і ўсёй грамады.

Вялікдзень — радаснае свята. Але мы памятаем у гэты дзень і пра тых, хто сёння не з намі, хто стаў ахвяраю таталітарнага рэжыму і загінуў ад рэпрэсіяў. У памяць аб іх у Баранавічах непадалёк ад месца расстрэлаў энкавэдзістамі ні ў чым невінаватых людзей мясцовыя жыхары ўстанавілі памятны крыж. Пасля святочнай літургіі вернікі прайшлі праз горад да гэтага журботнага месца, дзе а. Ігар адслужыў малебен за беларускі народ. А на заканчэнне ўсе разам адспявалі велічны беларускі рэлігійны гімн «Магутны Божа».

Які Вялікдзень без пачастунку? Было і гэта, за што шчыры дзякуй баранавіцкім парафіянам.

♦ Напрыканцы чэрвеня беларускія грэка-католікі атрымалі прыемную вестку — нарэшце парафіі святых роўнаапостальных настаўнікаў славянскіх Кірылы і Мятода ў Баранавічах і Жыровіцкай іконы Маці Божай у Івацэвічах прайшлі афіцыйную рэгістрацыю ў аблвыканкаме і атрымалі адпаведныя дакументы. Застаецца адзначыць, што чакаць гэтага часу царкоўным грамадам давялося амаль паўтары гады.

♦ Па запрашэнні рэдакцыі газеты «Царква» ў канцы траўня на Берасцейшчыне адбылося некалькі вечарынаў з удзелам віцебскага аўтара і выканаўцы Яўгена Савельева. Госць з Віцебску праспяваў цудоўныя хрысціянскія і патрыятычныя песні ля вогнішча ў парафіі ў Берасці і на парафіяльных святах у Івацэвічах і Баранавічах для мясцовых грэка-католікаў.

♦ Упершыню ў літургічнай практыцы грэка-каталіцкіх парафіяў на Берасцейшчыне былі адпраўлены святочныя набажэнствы ў гонар Найсвяцейшай Еўхарыстыі (святкуецца ў 9-ы чацвер пасля Пасхі) і Найсвяцейшага Сэрца Ісуса (у 10-ую пятніцу пасля Пасхі). Пераклад службаў на беларускую мову падрыхтавалі вернікі з Берасця. Гэтыя святы існуюць практычна ва ўсіх Усходніх Каталіцкіх Цэрквах. Праваслаўныя гэтай традыцыі не маюць.

Творчасць нашых чытачоў

**Зоя Рынкевіч**

## Званы Беларусі

Я чую званы па ўсёй Беларусі,
Ёй, беднай маёй, да зямлі пакланюся,
Хрыстовы крыжы падняліся ў нябёсы,
А сэрца і плача, і літасці просіць.

Званіце, званіце, мае дарагія,
Няхай вас пачуюць свае і чужыя,
Над полем, над гаем мелодыя грае,
То стогне самотна, то гучна спявае.

Стаю ды ўсё слухаю, мокрыя вочы.
Звініце, званы, аж да самае ночы
Радзіму маю вы ад сну абудзіце,
Душу да анёлаў святых узнясіце.

Пачуюць анёлы, як храмы пяюць,
Як белыя птушкі да нас прылятуць,
У садзе пасядуць як галубочкі
І слухаці будуць званы ды званочкі.

Зноў хораша стане ў сонечным свеце,
На полі квятністым вясёлыя дзеці,
Ад шчасця святыя засвецяцца вочкі
У Божых дачок і ў Божых сыночкаў.

Вакол тых званоў усё золатам ззяе.
Праменні вясёлкі Гасподняй лятаюць.
Мне хочацца чуць тыя звоны бясконца,
Як вечна ўзыходзіць гарачае сонца.

У будучым згінуць цёмныя сілы,
Наноў адрастуць апалёныя крылы.
Толькі, званы Беларусі, звініце,
Богу, зямлі сваёй славу нясіце!

Я гэтыя вершы ў песню складаю,
Куток дарагі на вякі праслаўляю.
Вы ж, людцы, паверце ў сілу Хрыстову,
Кахайце, шануйце Радзіму і Бога!!!

*г.Віцебск*

# Свята выхаванцаў нядзельнай школы ў Магілёве



У Панядзелак Святога Духа, 1 чэрвеня 1998 году, у выхаванцаў нядзельнай школы пры Магілёўскай грэка-каталіцкай парафіі Бялыніцкай іконы Маці Божай адбылася Першая споведзь і Урачыстае прычасце. Айцец Ігар Кандрацьеў адслужыў святочную дзіцячую Літургію ў візантыйскім абрадзе ў рыма-каталіцкай катэдры св. Станіслава. На гэтую ўрачыстасць сабраліся бацькі выхаванцаў нядзельнай школы, а таксама шмат гасцей. Дзеці самі вельмі прыгожа спявалі ўсю Літургію. Айцец Ігар Кандрацьеў падчас казання выказаў спадзяванне, што выхаванцы нядзельнай школы цяпер змогуць адукоўваць сваіх бацькоў і родных і паспрыяюць іх духоўнаму выхаванню. На памяць пра гэтую ўрачыстую падзею ў сваім жыцці дзеткі атрымалі паштоўкі з выявай Зыходу Святога Духа.

У нядзельнай школцы атрымліваюць рэлігійныя веды і хрысціянскае выхаванне больш за 20 дзетак магілёўскіх грэка-католікаў. Школа існуе ўжо два гады. Заняткі ў ёй адбываюцца кожную нядзелю і вядуць іх сп-ні Алена Лосева і Наталля Вашрова.

*Бацькі, якія жадаюць, каб іхнія дзеці атрымлівалі хрысціянскае выхаванне ў нядзельнай грэка-каталіцкай школцы ў Магілёве, могуць звяртацца да сп-ні Алены Лосевай па тэл.24-88-64.*

...Параскева ж мела непадалёк ад жытла свайго той Запалоцкі жаночы манастыр Св. Спаса, што св. Ефрасінняй над рэчкай, званай Палатою, закладзены, як у ейным Жыцці гаворыцца, і часта дзеля ўшанавання Боскага наведвала яго ды найвялебных Дзеваў і Маці, якія, пабраўшыся шлюбам з Нябесным Улюбёнцам Госпадам Хрыстом, анёльскае жыццё ў манастыры сваім праводзілі. Праз духоўныя з імі размовы і ад цнатлівых прыкладаў так заміловаліся іхнім манаскім станам і сумесным жыццём, што, княскія годнасці, дастатак, раскошу і ўсе свецкія марнасці адкінуўшы ды Богу на паслугу вечную з захаваннем чысціні дзявоцтва узорам і прыкладам. А што было для яе найулюбёнай справай,— дык гэта кнігі Святога Пісьма чытаць і тыя перапісваць, да таго і іншых заахвочвала, і дзівосна тых, што гэтыя кнігі перапісвалі, любіла, значную ўзнагароду ім за такую надзвычай карысную паслугу Царкве Божай і душам людскім абяцаючы. За такім навучаннем духоўным ды забавамі карыснымі і набожнымі ў манастыры некалькі гадоў правёўшы, звярнула св. Параскева на сябе позіркі ўсёй грамады сёстраў-манашак, якія яе да ўзроўню кіраўніцы падвысілі, усклаўшы на яе тытул ігуменні манастыра Св. Спаса. Ушанаваная тым тытулам, паклала служыцелька Хрыстоконаў манаскіх ўважала больш стараннаю і рупліваю за іншых, тую за Маці і кіраўніцу таемна сабе абірала, не хочучы без ейнага ведама і згоды рабіць штосьці. Гэтак надзвычай шанавала ў сабе цноту Св. Послуху, што ані пасада ігуменні, ані вялікія заслугі не выклікалі ў яе ніякага ад той цноты адступлення. Але наадварот, прывялі да такога ўзроўню манаскае дасканаласці, што жадала быць найменшаю служкаю для ўсіх сёстраў-манашак, якім не магла быць толькі за кіраўніцу, вартую ўсялякай пашаны, маці і дабрадзейку незвычайную. Але нядоўга тая набожная грамада дзеваў-законніц у манастыры Св. Спаса цешылася з мілай сваёй

*а. І.Сцябельскі*

# Жыццё св. Параскевы

*(урывак з твору «Дзве вялікія зоркі на небасхіле Полацкім, што з ценяў манаскіх паўстаюць, ці жыцці св. Дзеваў і Маці Еўфрасінні і Параскевы, законніц і ігуменняў...»)*

аддаўшыся, вырашыла манаскай трымацца замкнёнасці.

І не было пустым ейнае тое рашэнне, бо ў хуткім часе, цалкам саступіўшы брату свайму князю Глебу кіраванне Полацкім княствам, якім разам з ім як саўладальніца і князёўна нейкі час кіравала, пайшла да вышэй згаданага манастыра Св. Спаса і там законы манаскія, што св. айцом нашым Васілём Вялікім напісаныя, разам з вопраткай манаскаю з рук Сымона Наўгародца, біскупа Полацкага, прыняла, аддаўшы значную суму грошай і, несумненна, маёмасць сваю, што ёй у якасці пасагу дасталіся, таму манастыру і царкве Св. Спаса.

На прыклад гэткае нязвыклае пагарды светам і дачаснай маёмасцю, які св. князёўна Полацкая паказала, звярнула з подзівам позірк краіна Руская, і таму шмат найслаўнейшых асобаў сваіх ад абодвух палоў паслала да св. Васіля манастырскіх ценяў. Тыя ж, хто з паважных прычынаў не маглі змясціць сябе ў манаскай замкнёнасці, жылі ў свеце манаскім жыццём, як родны брат св. Параскевы полацкі князь Глеб. Бо той, прыкладам сястры сваёй натхнёны, трохі праўда іншым, але аднолькава гераічным спосабам, аддаў сябе Богу праз пабранне шлюбам з Ім чысціні сваёй у бязжонстве пажыццёвым. Багаты не так гадамі, як добрымі ўчынкамі, пайшоў з гэтага свету ў Полацку і там у царкве Св. Сафіі, каля айца і дзеда свайго ў магіле адной пахаваны быў з жалем агульным і тым больш, што род удзельных князёў Полацкіх на ім скончыўся.

А св. Параскева ў жыцці манаскім без асуджэння ідучы шляхам Прыказанняў Боскіх і законаў манаскіх, вядома, паводле міласці Бога, у роздумах пра рэчы нябесныя, у службе Божай, пастах, пакоры, послуху і іншых цнотах станавілася ўсё больш дасканалай. Але не так гэтым заахвочвала, як хутчэй нейкаю моцаю цягнула сваіх духоўных сёстраў да тых самых цнотаў, якіх яна была асаблівым




*Абраз св. Параскевы Полацкай. Знаходзіцца ў іканастасе царквы св. Параскевы Барысаглебскага манастыра айцоў студытаў у Полацку.*

вая мноства грошай і старання на аздабленне царквы пры тым самым манастыры пад імем Госпада Збавіцеля, якую св. Еўфрасіння раней збудавала, што ў некаторых хроніках была абвешчаная фундатаркай той самай царквы.

Не меншы клопат мела св. Параскева і аб жывых харамах Духа Святога — аб манашках, што пад ейнаю ўладаю былі, якіх да нясення салодкага ярма Хрыстовага, з уласнае волі на сябе прынятага, праз манаскі шлюб прысягання Богу, прытым да зберажэння чысціні, да захавання строгага ўбоства, да послуху з ахвотаю і да здабыцця іншых цнотаў навучала ў прамовах збаўленчых і вяла ўласным прыкладам. А якую са сваёй грамады сёстраў-законніц у захаванні вышэй азначаных цнотаў і зберагання заМаці і кіраўніцай св. Параскевай. Батый, што быў царом ці правадыром татараў заволжскіх, у 6745 г. ад стварэння свету ці ў 1237 г. ад нараджэння Госпада Хрыста, прыйшоўшы з Азіі з 600-тысячнай ардою сваёй у краіны паўночныя, іх апанаваў. [...]

Калі чуткі пра нягодніцтва і бязлітаснасць гэтага варвара разыйшліся ва ўсе бакі, напаў страх нязмерны і на беларускі край, у прыватнасці на Полацкае княства, якое ўжо на той час, па адыходзе з гэтага свету пабожнага князя Глеба, брата св. Параскевы, апошняга спадчыннага ўладальніка вышэй памянёнага княства Полацкага, было захопленае Рынгольдам, князем ВКЛ і ім кіраванае, каб і на яго, як на хаўрусніка іншых рускіх княстваў, тая бяда не прыйшла. Адыходзілі адтуль хто як мог, шукаючы ад паганскага мечу бяспечнага сховішча. Пасля і св. Параскева, ігумення жаночага Запалоцкага манастыра Св. Спаса, з той самай прычыны, а менавіта праз страх патрапіць у паганскія рукі з-за прарыву татараў да Полацку і манастыру ейнага, была вымушаная распусціць грамаду манаскую, што пад ейным была кіраваннем.

А калі служкі Хрыстовыя адныя ў той, другія ў іншы бок разбегліся, св. Параскева, даручыўшы апеку і дагляд манастыра свайго некалькім пабожным асобам, сама з групаю богабаязных людзей абраду грэцкага рушыла дарогай да Рыму, каб скласці там пашану магілам апостальскім і сталіцы князя апосталаў св. Пятра, пра якую як продкі яе, гэтак і яна сама заўсёды гаварыла з вераю і паслушэнствам, як прававерная каталічка, бо ў тыя часы ўвесь народ рускі быў адной веры і паслушэнства са святой Паўсюднай і Апостальскай Рымскай Царквою. І толькі пасля адыходу таго цара татараў заволжскіх Батыя з Венгрыі [...] прайшлі трывога і збянтэжанасць на Русі; так што жыхары, якія разыйшліся ў розныя бакі з-за страху перад мечам паганскім, праз некалькі гадоў зноўку да сядзібаў сваіх збірацца пачалі.

І законніцы манастыру Св. Спаса за Полацкам, якія з тае ж прычыны перад тым разыйшліся, зноўку да жылля свайго сабраліся і сціхлую на немалы час хвалу Божую ў царкве сваёй аднавілі. З тых усіх толькі ігумення і Маці іхняя св. Параскева ўжо больш да іх і манастыра свайго не вярнулася з Рыму. Але спадабалася ёй жыць там, як у месцы для ўсяго хрысціянскага свету найгалоўнейшым і найцудоўным, ці то з-за бачнага Намесніка Хрыстовага Найвышэйшага Айца Папы Рымскага Рыгора IX, які на той час на Пятровым пасадзе сядзеў, і, 14 гадоў Царквой пракіраваўшы, памёр у 1240 г., ці то з-за квітнеючай без хібы св. Рэлігіі Каталіцкай і хвалы Божай, што дзівосна памнажаецца, а таксама незлічоных прыкладаў пабожнасці, пражыла тут некалькі гадоў вялебна і багабойна. Напрыканцы дзён сваіх, ахінутая лёгкай агнявіцаю, атрымаўшы Св. Тайны, 12 лістапада 1239 г. Богу ў рукі духа свайго аддала, там і пахавана ўрачыста. [*У поглядах на год адыходу з гэтага свету св. Параскевы пісьменнікі не згаджаюцца між сабой. Пашакоўскі ў «Календары палітычным» піша пра гэта так: «12 лістапада св. Праксэда, альбо Праскоўя, князёўна Полацкая [...] спачыла ў Рыме ў 1234 г.*

*Аляшэўскі напрыканцы свайго абвяржэння на інфармацыю полацкіх айцоў езуітаў [...] сцвярджае, што азначаная Параскева жыла да 1283 г. [...] З датай вышэй названых аўтараў, а менавіта Аляшэўскага, аніякім чынам пагадзіцца не магу.*]* Калі адразу пасля смерці сваёй праславілася вялікім мноствам цудаў, дык пасля звычайнага даследавання іх у 1273 г. папам Рыгорам X была кананізаваная і да збору святых Дзеваў запісаная. [*Пра кананізацыю гэтай св. Дзевы і Маці параскевы пісалі розныя храністы. [...] Але, улічыўшы тое, што Каяловіч гісторыю пра св. Параскеву, ці Праксэду, князёўну Полацкую, узяў з летапісаў і добрасумленна прывёў у знакамітай сваёй кнізе «Miscellanea rerum» у пераліку ўласных св. заступнікаў ВКЛ [...] і прывёў пералік між святых Дзеваў зроблены папам Рыгорам X пасля падрабязнага разгляду цудаў у 1273 г., што вынікае з самога тэксту, які ён змясціў напрыканцы той заўвагі ў перакладзе на польскую мову. Што да азначанай вышэй кананізацыі св. Параскевы, якая адбылася гэтак хутка, праз 34 гады пасля яе смерці, і без асаблівага старання Русі прыйшла да завяршэння. Прычыну гэтага можна зразумець з некаторых хронік. Зрабіў гэта папа Рыгор дзеля прыцягнення да сябе грэкаў, якіх на з'яднанне з Царквой Рымскай [...] паклікаў на II Ліёнскі сабор (XIV Усяленскі), што складаўся з 500 біскупаў, 70 ігуменаў і 1000 іншых духоўных асобаў, якія ўладу мелі. Пэўна, перад пачаткам таго сабору гэтую св. Дзеву і манашку абраду грэка-рускага і кананізаваў. Падобна, што з гэтай прычыны Госпад Бог учыніў згоду між грэкамі і лацінянамі на памянёным саборы ў тым, што найбольш на той час між сабой іх розніла, а менавіта ў вызнанні паходжання Св. Духа і ад Сына, так як ад Айца, і чаму перад тым перашкаджалі грэкі. [...]*

*Да гэтага часу ў манастыры Дзеваў Базыльянак полацкіх знаходзіцца значная пра тую святую памятка, якую ўважаюць за асаблівую рэліквію, гэта невялічкі сярэбраны пазалочаны крыжык з выразанымі на ім славянска-рускімі літарамі, якія ўжо праз даўніну і вельмі выцертую пазалоту скласці і прачытаць добра немагчыма. Пра той крыжык у азначаным манастыры існуе ўстойлівае і нязменнае ад старых часоў паданне, што ім карысталася св. Параскева, носячы на сабе як звычайна абатысы ці ігумені, [...] якія цяпер памянёны крыжык манашкам, што паміраюць, даюць у рукі ці кладуць на грудзі, каб атрымаць палёгку ці дапамогу. Як чуў ад мноства годных веры законніцаў тамтэйшай манаскай грамады, паміраюць яны ў поўнай прытомнасці, з асаблівою скрухаю і лёгкае звычайна маюць скананне.*

*Нарэшце скончаю гэты аповяд пра крыжык, як і ўвесь твор пра жыццё, смерць і кананізацыю св. Параскевы аўтарытэтным сведчаннем пісьменніка Каяловіча, які ў шматкроць пахвалёнай кніжцы «Miscellanea rerum» [...] напісаў: «Св. Праксэда, альбо Праскоўя, князёўна Полацкая, праўнучка Гэрдзівіла, князя літоўскага навагрудскага, дачка Рэхвальда-Васіля, князя Полацкага, абраўшы жыццё манаскае пры царкве Збавіцеля, ці як звычайна кажуць Спаса (якая і да гэтага часу стаіць) на прадмесці Полацкім у полі, і якую сама (дакладней св. Еўфрасіння) збудавала, і дзе 7 гадоў пабожна жыла. Потым да Рыму дзеля ўшанавання парогаў апостальскіх выбралася з мноствам іншых высакародных асобаў, якіх дарогаю адаслала. Ад Аляксандра IV частку дрэва св. Крыжа атрымала (пэўна, калі той быў яшчэ на ніжэйшай пасадзе біскупа пад імем Рэгінальда), у каштоўную скрыню паклала і да Полацка адаслала. Крыж гэты доўгі час захоўваўся ў Полацку з надпісам, што згадваў пра тыя падзеі.*** Пабожна пражыўшы ў Рыме 7 гадоў, тамсама памёрла 12 лістапада 1239 г. [...] Згадвае пра гэта Крыштаф Варшавецкі ў Рэестры Святых, што выдадзены ў Рыме з вытрымкамі з Запісаў Рымскіх, якія зацверджаныя ў 1600 г. магістрам Sacri Polatii.*]* Русь жа прававерная, асабліва што ў ВКЛ знаходзілася, абраўшы яе сабе за патронку з дазволу свайго Верхавенства Духоўнага, да свайго асаблівага календару прыняла і дзень 28 кастрычніка (пэўна, той самы, у які была кананізаваная) штогадовым памінаннем яе назаўжды пасвяціла. Той дзень і да гэтага часу на Русі ў Вялікім Княстве Літоўскім, менавіта ў Полацку, пабожнымі каталікамі, як духоўнага гэтак і свецкага стану, а асабліва вялебнымі дзевамі манашкамі базыльянкамі манастыру Полацкага на Замку штогод урачыста святкуецца Богу ў Тройцы Святой адзінаму і ў святых сваіх дзівоснаму на вялікую славу. Амін.

---

* Тлумачэнні аўтара.

** Заўвага перакладчыка: *Пэўна, маецца на ўвазе крыж, які захоўваўся ў Полацку да 1914 г., а потым быў вывезены ў глыб Расеі ў часе нямецкага наступу. Сёння захоўваецца ў Яраслаўскім музеі-запаведніку. Пытанне аб рэстытуцыі нікім не ставілася.*

*Пераклад з польскай М. Баўтовіча паводле выдання I.Stebelski. «Dwa wielkie swiatła na horyzoncie Połockiem z cieniów zakonnych powstające, czyli zywoty ss. panien y matek Ewfrozyny y Parascewii...». Wilnia, 1781.*



**ТВОРЧАСЦЬ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ**

**Яўген Савельеў**

## Стары храм

Стары храм, хто яго будаваў?!
Людзі свята верылі Богу,
але чыйсьці страшэнны аскал
зруйнаваў, пасяліўшы ў сэрцах злобу.
Але не, не справіць баль
сатана на касцях памёрлых.
З небыцця, з руін паўстаў
Стары храм, адчыніў вароты.

Узняліся ў блакітную высь
на вежах касцёльных крыжы.
За сябе, за другіх памаліся,
вольным стане дыханне душы.
Лепей стане дыхаць вакол,
калі хтось дарогу знайшоў.
Не зрабіўшыся ахвярай злога,
храм душы адчыніў дзеля Бога!

Як нам жыць, што казаць, што рабіць?
Нас так доўга вучылі «яднацца»,
не з'ядналіся, а разыйшліся
па кватэрах адзінага брацтва.
Мы павінны прайсці праз усё,
не зваліцца і не зламацца.
Каб было не сорамна нам,
Чалавецтва, брацтвам звацца!

Узняліся ў блакітную высь
на вежах касцёльных крыжы.
За сябе, за другіх памаліся,
вольным стане дыханне душы.
Лепей стане дыхаць вакол,
калі хтось дарогу знайшоў.
Не зрабіўшыся ахвярай злога,
храм душы адчыніў дзеля Бога!

## Пяцёра пакутнікаў

Пяцёра пакутнікаў
Полацкай нашай зямлі
за веру і праўду Царквы
жыцці свае аддалі.

Не адракліся ад Хрыста,
не адракліся ад крыжа,
у ахвяры святому імя
Вечнасць жыцця знайшлі.

Той, хто аддасць жыццё
ў імя веры святой,
не згубіць, але адшукае
вечны супакой.

Супакой у Хрысце і ў святых —
Валадарства нябеснага скарб,
супраць учынкаў благіх —
Жыцця вечнага дар.

Кроч, пілігрым, кроч
Дарогай нялёгкай святых,
Брат і сястра, не збоч,
ад веры не адыйдзі.

Праўду не схавае ад Вачэй
стагоддзяў знявечаных пыл.
Пяцёра пакутнікаў Полацкіх
шануйма цяпер і мы...

*г. Віцебск*

***<u>Ад рэдакцыі «Царквы»:</u>*** *У перыяд станаўлення нашай Царквы, калі мы яшчэ не маем да канца сфармаваных царкоўных структураў, нам уяўляецца асабліва каштоўнай ідэя распачаць на старонках газеты своеасаблівы сінод. Мы заклікаем святароў і вернікаў да дыскусіі і разважанняў па праблемах сучаснай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы і шляхах яе далейшага развіцця.*

*Найперш мы хацелі б закрануць наш абрад. Абрад, безумоўна, не мае першаступеннага значэння ў веры сапраўднага хрысціяніна, аднак ён з'яўляецца знешнім спосабам рэлігійнага жыцця, які адлюстроўвае культуру і ментальнасць нашага народу. Якім мусіць быць наш абрад ва ўмовах Беларусі? Памяць пра традыцыі нашай Царквы была амаль цалкам знішчана, мы шмат чаго згубілі з культурнай спадчыны нашых продкаў...*

*З прыярытэтных пытанняў, якія мы лічым вартымі абмеркавання на старонках «Царквы», прапануем наступныя: асаблівасці набажэнстваў (іх працягласць, выкарыстанне розных моваў, спосаб прычашчэння вернікаў і г.д.), архітэктура і інтэр'ер храмаў (іканастасы, лавы і інш.), выкарыстанне арганаў і званочкаў, мелодыі спеваў, царкоўны калiндар і адзначэнне святаў, якіх няма ў праваслаўнай традыцыі.*



Паважаная рэдакцыя газеты «Царква»!

Вырашыў адгукнуцца на ваш заклік да абмеркавання абраду Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі.

Адносна мовы набажэнстваў. Пытанне здаецца недарэчным, таму што «мова — душа народу» і кожны народ мусіць звяртацца да Бога на роднай мове: і ў царкве, і ў хаце. Шануючы тое, што Бог зрабіў нас беларусамі, я маю на ўвазе сапраўдных, не «тутэйшых», дык будзьма Яму ўдзячныя, з шанаваннем паставімся да Ягонае ласкі ды складзем хвалу ў свой беларускі спосаб.

Наконт абраду. Усе мы ведаем, што ва ўсім свеце Уніяцкіх Цэркваў шмат і кожная з іх мае свае абрадавыя адметнасці. З 1596 г. да 1839 г. наша Царква прайшла вялікі ды складаны шлях... З цягам часу выпрацаваўся наш уніяцкі (беларуска-візантыйскі) абрад, беларуская школа дойлідства, разьбярства, іканапісу. Уніяцкая Царква сталася народнай з усімі характэрнымі рысамі. Безумоўна, трэба адраджаць той абрад, які быў ва Уніяцкай Царкве на Беларусі ў перыяд яе росквіту, а не падчасканання. Неаунія належыць да гэтага перыяду. Так званы сінадальны абрад, на маю думку, больш прыдатны для расейскіх уніятаў, якія мелі адмысловую ды асобную ад нас гісторыю. Таму ім, а не нам, беларусам ці ўкраінцам, вырашаць, якой павінна стацца Грэка-Каталіцкая Царква ў Расеі. Нам жа трэба руліцца пра сваё.

Наконт архітэктуры, храмавага інтэр'еру і інш. — гэтую праблему трэба вырашаць, зыходзячы з гістарычнае спадчыны Уніяцкай Царквы. Што да іканастасаў ды арганаў, то хацелася б больш даведацца, адкуль яны трапілі на Беларусь ды славянскія землі ўвогуле, пачуць думкі беларускіх навукоўцаў і гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў ды іншых спецыялістаў, якіх, дзякаваць Богу, маем. Дамо ім магчымасць выказаць свае меркаванні на старонках «Царквы». Увогуле, нядрэнна было б правесці навуковую канферэнцыю, прысвечаную гэтым пытанням пад эгідай БГКЦ, яе матэрыялы абмяркаваць у газеце. Тут вялікае поле дзейнасці!

Наконт календару — увесь цывілізаваны свет, у тым ліку і частка Праваслаўных Цэркваў, карыстаюцца больш дакладным грыгарыянскім календаром. І калі мы збіраемся далучацца да яго (цывілізаванага свету) — то і няма пра што спрачацца.

З павагай і пажаданнем плённай працы —

**Андрусь Саладоўнікаў, старшыня парафіі**

*г.Гомель*

# Пра царкоўны абрад у хрысціянстве

У Каталіцкай Царкве належыць адрозніваць паняцці каталіцкага веравучэння і царкоўнага абраду. Веравучэнне ва ўсёй Каталіцкай Царкве адно — хрысціянскае, але напрацягу гісторыі ў розных народаў, што спавядаюць каталіцтва, паўсталі і развіліся адметнасці ў абрадах, якія паходзяць з культуры і традыцыяў гэтых народаў. Каталіцкае веравучэнне складаецца з сукупнасці ісцін па пытаннях веры і маралі, якія адкрытыя Богам, якім навучае Царква. А царкоўны абрад — гэта сукупнасць устаноўленых царкоўнай традыцыяй дзеянняў для вонкавага праяўлення навукі Царквы і Богаўшанавання.

У хрысціянскай Царкве ад самых пачаткаў яе існавання пры спавяданні аднаго веравучэння ўзніклі і ў далейшым развіліся розныя царкоўныя абрады. На сённяшні дзень вядомы наступныя з іх:

1. *Александрыйскі (копцкі), у Егіпце.*
2. *Эфіопскі, у Эфіопіі.*
3. *Атыёхійскі (сірыйскі), у Сірыі і Палестыне.*
4. *Халдэйскі, у Іраку.*
5. *Малабарскі, у Індыі.*
6. *Мараніцкі, у Ліване.*
7. *Армянскі, сярод армянаў.*
8. *Візантыйскі (на аснове яго развіліся наступныя нацыянальныя формы: грэцкі, арабскі, грузінскі, украінскі, румынскі, расійскі і інш.).*
9. *Рымскі (лацінскі).*
10. *Амбразіянскі (міланскі), у паўночнай Італіі.*
11. *Мазарабскі, у Іспаніі, сёння толькі ў г.Таледа.*
12. *Гальскі, у старажытнай Галіі.*

Разнастайнасць абрадаў у хрысціянскай Царкве выклікана асаблівасцямі моўных, этнічных, культурных элементаў тых народаў, сярод якіх распаўсюджвалася хрысціянства. Захаванню і ўкараненню царкоўных абрадаў спрыяла адданае захаванне народамі сваіх нацыянальных традыцыяў, падпольнае існаванне хрысціянства ў старажытнай Рымскай імперыі каля 300 гадоў і адсутнасць у мінулым сучасных сродкаў камунікацыі (транспарту, сродкаў сувязі і інфармацыі). Згаданыя прычыны трымалі нацыянальныя Цэрквы ў пэўнай ізаляцыі адна ад адной, у сувязі з чым суцэльная уніфікацыя царкоўных абрадаў была немагчымая. Гэта, напэўна, і не трэба. Разнастайнасць царкоўных абрадаў спрые разнастайнасці культур, самавыяўленню кожнага народу і лепшаму засваенню хрысціянскага веравучэння, бо гэтае засваенне адбываецца на роднай мове і ў тых формах культуры (у тым ліку і мастацтва), якія адпавядаюць ментальнасці кожнага народу.

Веравучэнне і царкоўныя абрады можна параўнаць з чалавекам, які мае некалькі розных убораў. Але што б чалавек ні апрануў, тым не менш, ён застаецца тым самым чалавекам. Гэтаксама і хрысціянскае веравучэнне ў Каталіцкай Царкве адно, хоць абрадаў у ёй шмат.

Гэты плюралізм у царкоўных абрадах прызнаваўся яшчэ ў апостальскія часы самімі апосталамі. Так апостал Павел піша: «Для юдэяў я быў, як юдэй, каб здабыць юдэяў (г.зн. апостал Павел, пашыраючы хрысціянскую веру, трымаўся юдэйскіх звычаяў); ... для нямаючых закону ( г.зн. для тых, хто не прытрымліваўся юдэйскіх звычаяў) — як беззаконны (г.зн. трымаўся звычаяў іншых народаў)... Для ўсіх я стаўся ўсім, каб навогул збавіць некага» (1 Кар 9, 20-22).

Апостал Павел быў хрысціянінам, і таму лічыў неабходным карыстацца звычаямі ўсіх тых народаў, сярод якіх абвяшчаў Евангелле (вядома, калі яны не супярэчылі сутнасці хрысціянства).

Але ж узнікае пытанне: наколькі вялікай можа быць розніца паміж царкоўнымі абрадамі? Дзе мяжа гэтых адметнасцяў? Каталіцкая Царква сцвярджае: мы за адзінства ў веравучэнні пры разнастайнасці царкоўных абрадаў. А мяжой іх разнастайнасці ёсць захаванне адзінства Царквы. Калі разнастайнасць абрадаў пагражае царкоўнай еднасці, то такая разнастайнасць недапушчальная.

Узнікае пытанне: ці могуць царкоўныя абрады мяняцца ў наш час у адпаведнасці са зменаю ментальнасці людзей і матэрыяльнай культуры? На гэта дае адказ гістарычная практыка Царквы: не толькі могуць, але і павінны. Вобразна на гэтае пытанне адказвае і сам Хрыстос: «Субота для чалавека, але не чалавек для суботы» (Мк 2, 27). Святкаванне суботы — гэта адзін з элементаў юдэйскага царкоўнага абраду. Адсюль сэнс словаў Хрыстовых: субота (г.зн. абрад) — не самамэта, але сродак для вонкавага выражэння таго, у што верыць чалавек. Яшчэ кажа Хрыстос: «Не ўліваюць віна маладога ў старыя мяхі, бо разрываюцца мяхі (ад браджэння віна — аўт.), і віно выцякае, і мяхі гінуць, але віно маладое ўліваюць у новыя мяхі, і захоўваецца тое і другое» (Мц 9, 17). Гэтыя словы ў дадзеным выпадку азначаюць, што новай ментальнасці чалавека, новаму духу часу, новай матэрыяльнай культуры павінны адпавядаць і абноўленыя абрады, натуральна, не скажаючы пры гэтым хрысціянскага веравучэння.

Якім чынам павінны адбывацца змены ў абрадзе? Яны не павінны адбывацца адвольна, штучна, яны павінны быць абумоўленыя самой сутнасцю пераменаў у жыцці.

**Святар Віктар Данілаў**

*г.Горадня*



Фармаванне рэлігійнага абраду шчыльна звязана з развіццём народу. Таму абрад не можа быць створаны штучна, запазычаны, прыўнесены і прышчэплены дадзенаму народу звонку. Мне здаецца відавочным, што трэба адрадзіць той абрад, які склаўся ў нашай Царкве да яе знішчэння, настолькі, наколькі гэта магчыма зрабіць па тых дакументах, што захаваліся (бо жывых сведкаў не засталося). Такім чынам мы, так бы мовіць, выведзем са стану анабіёзу нейкі, не зусім здаровы, але дастаткова жыццяздатны дарослы арганізм — абрад. У сучасных нармальных умовах ён зможа развівацца далей. Прыстасоўваючыся да гэтых умоваў, абрад вымушаны будзе зазнаць пэўныя фенатыпічныя змены, але ягоны генатып — беларускі — захаваецца. Уніяцкі абрад паскорана пройдзе амаль паўтаравекавую эвалюцыю рэлігійнай культуры нашага народу за некалькі гадоў і прыйдзе ў адпаведнасць з нашымі сённяшнімі ўяўленнямі пра богаслужэнне ў адпаведнасці з сучаснай навукай Каталіцкай Царквы. У выніку мы атрымаем тое, што жадаем — сучасны абрад Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Няма ніякага сэнсу звяртацца да вытокаў фармавання візантыйскага абраду, распяваць грэцкія мелодыі па-беларуску. Няма сэнсу аднаўляць абрад, што існаваў у Кіеўскай Русі, бо нам бліжэй будзе той абрад, які сфармаваўся на беларускіх землях да сярэдзіны XIX стагоддзя. Яшчэ больш недарэчна пераносіць у нашу Царкву тое, што сфармавалася ў іншых памесных Цэрквах, на глебе іх нацыянальных культур. Арыентацыю нашай Царквы на маскоўскую сінадальную традыцыю (маецца на ўвазе неаунія) лічу ўвогуле недапушчальнай і шкоднай як беспрынцыпнае талстоўскае несупраціўленне злу — той культуры, што сталася зброяй для знішчэння Уніі.

Паколькі Святы Пасад блаславіў памесныя Цэрквы адпраўляць набажэнствы ў храмах на роднай мове, у Беларусі богаслужбовай мовай павінна быць беларуская.

Каляндар, па якім мусіць жыць наша Царква,— павінен быць грыгарыянскі, гэта значыць, адзіны з усёй Каталіцкай Царквой.

Што да іншых прыватных пытанняў — архітэктура храмаў, музычная традыцыя і інш. — трэба арыентавацца на навуковыя даследаванні спецыялістаў. Было б вельмі добра, каб «Царква» публікавала іх артыкулы ці хоць бы бібліяграфію падобных прац. Думкі накшталт «мая бабка чула ад прабабкі» зусім не будуць выглядаць пераканаўчымі.

Хрыстос пакінуў пастыраў для таго, каб пасвілі авечак сваіх, але не наадварот, таму вырашальным для вернікаў павінна быць слова святара. Спрэчныя пытанні ерархі павінны абмеркаваць на памесных саборах, а да нас, вернікаў,— давесці іх пастановы. Інакш у нашай Царкве ніколі не будзе адзінства, стройнасці і парадку.

**В.Ляўковіч, урач**

*г.Берасце*



Адраджэнне Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі ставіць перад клірам і вернікамі новыя пытанні, якія не былі актуальнымі яшчэ 5-8 гадоў таму. Адно з такіх пытанняў — пра абрадавую ідэнтычнасць нашай Царквы.

Каб адказаць на пытанне, якія асаблівасці ў адпраўленні візантыйскага абраду найбольш адпавядаюць нашай Царкве, трэба ўзгадаць, што адной з асноўных нашых задачаў з'яўляецца выкананне волі Хрыста «каб усе былі адно». Мы павінны дапамагчы нашым праваслаўным братам прыйсці да еднасці з Усяленскай Царквой. Трэба зрабіць так, каб не адштурхнуць праваслаўных чужымі для іх абрадавымі формамі, каб чалавек, выхаваны ў праваслаўным асяроддзі, прымаючы каталіцтва ўсходняга абраду, не быў вымушаны ісці на разрыў з гэтай традыцыяй.

Першы шлях — адрадзіць той абрад, які існаваў у Беларусі да скасавання Уніі. Але з тых часоў мінула больш за 150 гадоў. Зараз мы не зможам дакладна вызначыць у дэталях, якім быў той абрад. Богаслужбовыя кнігі, якія дайшлі да нас, не здольныя даць нам поўнага ўяўлення пра тагачасны абрад. Акрамя таго, жыццё не стаіць на месцы і было б неразумным капіраваць тое, што было 200 гадоў таму ў сучасных умовах. (Гэта яшчэ ў большай меры датычыць абраду, што быў у Кіеўскай Русі ў IX-XI стст.) Таксама існуе думка, што абрад, які практыкавала Уніяцкая Царква да 1839 году, быў моцна лацінізаваны. Такім чынам, ідучы гэтым шляхам, існуе небяспека, што мы альбо пабудуем не жывую Царкву, а нейкае падабенства этнаграфічнага музею, альбо пойдзем банальным шляхам лацінізацыі. Усходнімі ў нас тады застануцца толькі богаслужбовыя тэксты, а вонкавы выгляд абраду будзе ідэнтычны лацінскаму. У гэтым выпадку наша Царква застанецца Царквою невялікай купкі інтэлігентаў. А ўсім нам, безумоўна, хацелася, каб нашая Царква стала Царквою шырокіх колаў беларускага народу.

Таксама няма рацыі ў тым, каб узяць за аснову чыста грэцкі абрад. Гэты візантыйскі абрад з цягам часу стаў даволі значна адрознівацца ад абрадавых практык славянскіх народаў. Такі абрад быў бы сёння на нашых землях не больш чым хрысціянскай экзотыкай з Блізкага Усходу. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова было паглядзець па тэлебачанні Велікодную службу з базілікі Гробу Гасподняга ў Ерусаліме. Набажэнства там адпраўлялася менавіта ў той сучаснай форме грэцкага абраду. Натуральна, што такі абрад не адпавядае нашай ментальнасці.

Сінадальны абрад найбольш пашыраны ў Беларусі. Сотні тысячаў вернікаў выхаваны ў гэтым абрадзе, прызвычаіліся да яго. Але гэты абрад перажывае сёння пэўныя крызісныя з'явы. Ён выявіў сваю непрыстасаванасць да сучаснага парафіяльнага жыцця: доўгія багаслужбы, строгія пасты, адсутнасць лаваў у храмах і інш. Усё гэта больш прыдатнае для манаскага жыцця, але не для парафіі. Нават сярод пэўных колаў праваслаўнага духавенства пашыраецца рух за рэформу сінадальнага абраду, за прыстасаванне яго да сучаснасці. Такім чынам, калі мы пойдзем гэтым шляхам, мы рызыкуем плесціся ў хвасце рэформаў. Калі чалавек, які стаміўся ад рознага негатыву, што мае месца ў праваслаўі, прыйдзе ў нашу Царкву і пабачыць тое самае, гэта можа прывесці яго да вялікага расчаравання і нават бязвер'я.

На маю думку, найбольш прымальным шляхам для нас было б узяць за аснову (але не больш!) абрад, які практыкуецца ў парафіяльных цэрквах Галічыны. Паміж нашымі народамі шмат агульнага ў побыце, характары, этнакультуры. Такім чынам, гэты абрад не ўспрымаўся б чужым для большасці насельніцтва Беларусі. Вядома, я разумею, што гэта не самы ідэальны варыянт. У пэўных рысах галіцкі абрад трэба адаптаваць да нашых умоваў. Але па ўласным вопыце ведаю, што нават многім праваслаўным падабаецца, «як правяць на Украіне».

Наконт мовы думаю, што тут дыскусіі быць не павінна. Беларуская мова ўсталявалася ўжо як літургічная мова нашай Царквы, нават нягледзячы на недахоп перакладаў асобных літургічных тэкстаў. Але не трэба зусім адкідаць царкоўна-славянскую і расейскую мову. Рэчаіснасць ёсць такой, што пэўнае кола вернікаў жадала б маліцца і на гэтых мовах. Мы не маем права пазбаўляць іх такой магчымасці. Трэба памятаць, што мы перш за ўсё каталікі, а ўжо потым беларусы, расейцы, украінцы і г.д.

Таксама не трэба непрымальна ставіцца да юльянскага каляндара. Пэўна, з астранамічнага пункту гледжання новы стыль з'яўляецца больш дакладным, але большасць насельніцтва Беларусі адзначае святы па старым стылі. Тут трэба праяўляць нам памяркоўнасць. Аднак лічу, што спалучэнне новага стылю ў нерухомых святых і юльянскай пасхаліі (ёсць і такія прапановы) — гэта бязглуздзіца, якая прывядзе да блытаніны ў царкоўным тыпіконе.

Іканастасы ў нашых храмах павінны быць, але не як глухая сцяна. Існуюць і больш прымальныя формы. Дастаткова пазнаёміцца з іканастасамі ў храмах Славакіі, Украіны, Венгрыі, Чэхіі. Без іканастаса цяжка выконваць падчас багаслужбы пэўныя дзеянні.

Таксама было б вельмі добра ўвесці ў богаслужбовы каляндар нашай Царквы святы Найсвяцейшай Еўхарыстыі і Хрыстовага Сэрца.Гэтыя святы прынялі нават такія Усходнія Каталіцкія Цэрквы, як копцкая, халдэйская, армянская і г.д. Ёсць складзеныя ва ўсходніх традыцыях багаслужбы на гэтыя святы.

Пакуль у нас амаль няма сваіх храмаў. Службы часта праходзяць у прыстасаваных памяшканнях. Але з часам у нас з'явяцца свае храмы, і тады пытанне пра іх вонкавы і ўнутраны выгляд, пра абрад паўстане вельмі актуальна. Павялічыцца колькасць вернікаў, у нейкай меры зменіцца іх якасны склад. І нам трэба не адштурхнуць тых, хто імкнецца да адзінства Царквы. Шмат ужо сказана хлусні пра Унію, як пра шлях да лацінства. Не будзем даваць падставы сучасным фарысеям працягваць гэтую хлусню. Не будзем забываць, што мы каталікі ўсходняга, візантыйска-славянскага абраду.

Вядома, усе гэтыя пытанні кампетэнтны вырашаць Сабор. Але і наш, вернікаў, абавязак — дапамагчы ў гэтым нашым пастырам.

**Яўген Петухоў, старшыня парафіі**

*г.Берасце*

**Паола Вагнэр**

# Тата, а дзе жыве Бог?

### *3. ТАТА, А ДЗЕ БОГ ЖЫВЕ?*

Звычайна мы называем царкву «Божым домам», але Бог жыве не толькі ў каменнай царкве — хоць і вельмі прыгожай.

Для хрысціянаў царква — гэта асаблівае і вельмі важнае месца, таму што там яны збіраюцца на багаслуж-



бы. У царкве служыцца Святая Літургія, у ёй хрысцяць дзетак, адбываюцца вянчанні. Вернікі там спяваюць, хваляць Бога, дзякуюць Яму, моляцца ў сваіх патрэбах, а таксама і за людзей, якія ўжо памерлі. Калі ў царкве набажэнстваў няма, там вельмі ціха, а ў даразахоўніцы пад выглядам хлеба і віна прысутнічае сам Госпад наш Ісус Хрыстос. Калі ж мы з табою закрыем за сабою царкоўныя дзверы, то як бы звонку застаецца ўвесь шумны свет. І тады мы ў супакоі і цішыні можам спаткацца з Ісусам Хрыстом.

Людзям патрэбна такое месца, дзе б яны маглі пабыць у цішы, дзе б ім ніхто не замінаў і не перашкаджаў, дзе яны не мусяць баяцца і дзе могуць паразважаць над сваім жыццём. Людзям патрэбна месца для сустрэчаў з Богам. Вельмі добра, каб дзеці калі-нікалі самі заходзілі да царквы, і, можа, нават без дарослага, і не ў свята, а проста так.

Таму, што анідзе мы больш не знойдзем такой асаблівай цішыні, некаторыя людзі думаюць, што спаткаць Бога можна толькі ў царкве. Але гэта вельмі вялікая памылка. Пэўна, можа у царкве для нас гэта троху лягчэй, але ж Бог стварыў цэлы свет, і мы можам з Ім сустрэцца паўсюль. Госпад Бог з намі на кожным месцы ва ўсім свеце. Можам знайсці Яго не толькі ў сценах храму, але і звонку — у лесе, у полі, а таксама ў школе, дома, у сям'і.

### *4. ТАТА, ДУМАЕШ БУДЗЕ КАНЕЦ СВЕТУ?*

Так, вядома, будзе, але ніхто не ведае калі, толькі Бог ведае. Гэты свет аднойчы перастане існаваць, бо ўсё матэрыяльнае не можа існаваць вечна. Але не думай, што свет праваліцца ў цемру і на гэтым будзе канец. У Бібліі напісана, што ў канцы свету прыйдзе Ісус Хрыстос, і будзе новае неба і новая зямля. Усе хрысціяне ў гэта вераць і чакаюць другога прыйсця Хрыста.

Усё будзе іншым, як можам зараз сабе ўяўляць. Зноў спаткаемся з людзьмі, якіх мы любілі, таксама з тымі, хто жыў да нас. Мы ўбачым Бога і зразумеем усё, што сёння няздольныя разумець. Таксама не будзе ўжо ані смерці, ані хваробы, і ўжо нічога нікому не будзе балець.

Аднак мы, людзі, сталіся такімі моцнымі, што можам і самі знішчыць свет. На зямлі столькі такой страшнай зброі, што ты сабе нават не ўяўляеш. Многія людзі такія неразумныя, што не хочуць слухаць, што станецца з зямлёю, калі яны не зменяць сваіх паводзінаў: паветра пачынае быць атручаным, забруджваецца пітная вада, знішчаюцца расліны і жывёлы. А што нарабіла наша аварыя ў Чарнобылі? Нават сонца стала для нас непрыязным, а ягоныя промні нам шкодзяць, бо мы знішчылі ахоўны слой атмасферы.

Бог, аднак, хоча, каб мы клапаціліся пра зямлю, якую Ён стварыў, каб мы яе цанілі, ды зусім не хоча, каб мы яе аднойчы знішчылі.

*(Працяг будзе)*

*Пераклаў з чэшскай*

**дыякан Андрэй Абламейка**

*Пачатак у № 1 за 1998 год*

## «Дзіцячыя» літургіі ў Львове навяртаюць да Бога і дарослых

Адмысловыя набажэнствы для дзяцей у манастырскай царкве сёстраў міласэрнасці св. Вікенція ў Львове набылі вялікую папулярнасць. Колькасць дзяцей, якія прыходзяць на нядзельную літургію а. Міхайлы Дымыда, узрастае амаль катастрафічна. На пачатку (паўтара гады таму) на службу Божую прыходзіла каля 10 дзяцей, цяпер жа прыходзіць каля двух сотняў дзяцей. Прычым дзеці малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту часта прыходзяць самі.

Першапачатковай прычынай для адпраўлення такіх «дзіцячых» набажэнстваў было тое, што ў шмат якіх парафіяльных грамадах закаранела ўспрыняцце вельмі жвавых паводзінаў малых дзяцей у царкве як нейкі грэх, без уліку іх узроставых асаблівасцяў. Многія бацькі, зважаючы на гэта і не маючы магчымасці пакінуць дзяцей дома, таксама выключаюцца з царкоўнага жыцця.

Як сведчыць а. М.Дымыд, асноўнай спецыфікай казання для дзяцей ёсць абмежаванне яго тэмы да адной-двух простых думак, якія б запалі ў сэрца дзіцяці. Нават старэйшым людзям гэтыя простыя казанні шмат у чым дапамагаюць лепш зразумець словы Евангелля. Часам бацькі, якія прыходзяць у царкву толькі дзеля дзіцяці, паддаюцца ачышчэнню. І ўжо быў выпадак, калі пасля наведвання такіх набажэнстваў зноў стала нармальнай «фатальна» раз'яднаная сям'я.




**Царква**

*грэка-каталіцкая газета*

**№ 2 (17), 1998**

**Адрас рэдакцыі:**
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасце, Беларусь
Тэл.: (0162) 24-74-82

**Заснавальнік і выдавец:** Берасцейская грэка-каталіцкая парафія святых братоў апосталаў Пятра і Андрэя

**Пасведчанне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27 лістапада 1997 году

**Галоўны рэдактар:** святар Ігар Кандрацьеў

**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі

**Царкоўны асістэнт:** протапрасвітар Ян Матусевіч

**Падпісана ў друк:** 25 чэрвеня 1998 году, а 22-30

**Паліграфічныя работы:** "ПоліМарк", вул.Даўмана, $13^{Б}$, г.Менск

***Газета выдаецца на ахвяраванні. Шчыра дзякуем за ахвяру!***

***Наш разліковы рахунак № 3015200210017***

***у Берасцейскім філіяле № 2 КБ "Абсалютбанк", МФО 150501242***

Аб'ём — 2,0 ул.-выд.аркушы. Наклад 1500. Замова №